наша свабода

№39(266) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

9 КРАСАВІКА 2002 году АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# Журналісты на лаве падсудных




Фота: www.pahonia.com

*Сёння ў 11.00 у судзе Ленінскага раёну Гродна пачынаецца судовы працэс над супрацоўнікамі газеты «Пагоня» Міколам Маркевічам і Паўлам Мажэйкам. Іх абвінавачваюць у паклёпе на прэзідэнта Беларусі. Па некаторых звестках, прысуды ўжо «распісаныя»: М.Маркевічу пагражае 5 гадоў за кратамі (максімальны тэрмін), П.Мажэйку – тры з паловай.*

Коратка нагадаем чытачам перыпетыі судовай справы супраць недзяржаўных журналістаў.

5 верасня мінулага году, за чатыры дні да прэзідэнцкіх выбараў, пракуратура Гродзенскай вобласці проста ў друкарні сканфіскавала наклад перадвыбарнага 36 нумару газеты «Пагоня». Артыкулы нумару «Ідзем на выбары» і «Ён – не Лукашэнка» змяшчалі вострую крытыку кандыдата ў прэзідэнты А.Лукашэнкі. Паколькі наклад не дайшоў да чытача, рэдакцыя змясціла матэрыялы ў інтэрнэце. За што і паплацілася.

Пракуратура Гродзенскай вобласці палічыла, што матэрыялы ўтрымліваюць паклёп на прэзідэнта Беларусі. Яна вынесла «Пагоні» афіцыйнае папярэджанне і запатрабавала закрыцця газеты праз суд. 12 лістапада 2001 году суддзя Вышэйшага гаспадарчага суду Валерый Жандараў прыняў рашэнне закрыць «Пагоню». Але і гэтага аказалася замала.

14 лютага, ужо пасля закрыцця газеты, галоўнаму рэдактару выдання Міколу Маркевічу і журналісту Паўлу Мажэйку былі прад'яўленыя абвінавачанні ў публічным паклёпе на Аляксандра Лукашэнку, што парушае частку другую 367 артыкулу Крымінальнага кодэксу Беларусі – «Распаўсюджванне паклёпу на прэзідэнта РБ у творы, які публічна дэманструецца, у сродку масавай інфармацыі».

12 сакавіка крымінальная справа трапіла ў суд. І заўтра адбудзецца першае судовае паседжанне.

У гісторыі беларускай юрыспрудэнцыі гэта будзе першы разгляд справы аб паклёпе на прэзідэнта. І таму можна чакаць найгоршага – «паказальнага» прысуду, каб усе іншыя журналісты памяталі пра гэта і пісалі толькі так, "як трэба».

Дарэчы, у мінулую пятніцу адбылася акцыя пратэсту гарадзенцаў супраць крымінальнага пераследу журналістаў «Пагоні». У час з 11.00 да 13.30 у людных месцах гораду – каля будынку аблвыканкаму і на плошчы Савецкай – прайшлі тры пікеты.

*Заканчэнне на стар.3*

# Новыя шукальнікі золата

Учора Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з прэзідэнтам Міжнароднай групы кампаній «ІТЭРА» Ігарам Макаравым. Як паведамляе прэзідэнцкая прэс-служба, бакі абмяркоўвалі пытанні магчымага ўдзелу кампаніі ў прыватызацыйных працэсах у нашай краіне. «ІТЭРА» прэтэндуе на кантрольныя пакеты акцый гродзенскага «Азоту», куды яна пастаўляе сыравіну, а таксама наваполацкіх «Нафтану» і «Паліміру».

Між тым сама гэтая кампанія мае ў бізнес-свеце далёка не крыштальную рэпутацыю. Па звестках сусветных СМІ, дзяржаўны канцэрн «Газпрам» праз «ІТЭРУ» хавае свае прыбыткі. *The Wall Street Journal*, напрыклад, піша, што «Газпрам» за некалькі гадоў «перадаў» (падараваў) гэтай кампаніі газавых радовішчаў на 2 трыльёны кубаметраў – здабытага там газу хопіць на тое, каб забяспечыць патрэбы ўсёй Еўропы на працягу гадоў пяці. Аналагічнымі падарункамі сталі частка кліенцкай базы «Газпраму», якая дасталася «ІТЭРЫ», а таксама дазвол на выкарыстанне газпрамаўскіх транспартных магістраляў. Дарэчы, сама «ІТЭРА» была зарэгістраваная на Кіпры ў 1992 годзе, і імёны яе заснавальнікаў і акцыянераў невядомыя.

Прэзідэнт «ІТЭРЫ» Ігар Макараў – вядомы савецкі веласіпедыст, па непацверджаных звестках – амерыканскі грамадзянін. Але, відаць, не толькі на сумесных спартовых захапленнях будуюцца ягоныя добрыя стасункі з кіраўніком Беларусі. Ёсць звесткі, што «ІТЭРА» ўжо «прыкарміла» ў Беларусі людзей, ад рашэння якіх залежаць вынікі прыватызацыі беларускіх нафтахімічных прадпрыемстваў.

*Заканчэнне на стар.3*

## ВЕСТКІ



Фота Ул.Шлапака

### Малако не патаннее

Да канца гэтага году каля 70% беларускіх малакаперапрацоўчых прадпрыемстваў стануць стратнымі, прагназуюць у Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання. Зараз амаль усе яны знаходзяцца ў камунальнай уласнасці абласцей, прычым кіруюць імі, як лічыць дырэктар дэпартаменту харчавання Мінсельгасхарчу Васіль Жукаў, «часта не эканамічнымі, а адміністрацыйнымі метадамі».

Мінсельгасхарч распрацаваў праграму рэфармавання малакаперапрацоўчай галіны, якая прадугледжвае скарачэнне прыкладна 50 прадпрыемстваў са слабай загрузкай. Іх плануецца ці перапрафіляваць, ці зрабіць філіяламі эканамічна ўстойлівых прадпрыемстваў, ці акцыянаваць з выкарыстаннем замежнага капіталу. Сёння ж галоўная задача такіх прадпрыемстваў – забяспечваць высокую якасць і канкурэнтаздольныя цэны сваёй прадукцыі.

### На «Гомсельмашы» – спрытнейшыя

Прафсаюзны камітэт аб'яднання «Гомсельмаш» вырашыў праблему збору прафсаюзных складак праз разлікова-касавы банк, дзе працаўнікі гэтага прадпрыемства атрымліваюць заробак. Па інфармацыі намесніка старшыні прафкаму Мікалая Кавалёва, ад уплаты складак і, адпаведна, ад сяброўства ў прафсаюзах адмаўляюцца зараз каля 4% працаўнікоў «Гомсельмаша».

### У бальніцы не ўсё чыста

Несуцяшальныя падаюцца вынікі праверкі Брэсцкай абласной бальніцы камісіяй з ліку супрацоўнікаў Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэту. Асноўныя заўвагі датычацца дзейнасці аптэкі пры закупцы медыкаментаў і афармленні дакументаў па закупках, а таксама працы па ўліку лекавых сродкаў і прызначэнні наркатычных прэпаратаў.

Наступствам праверкі стала звальненне на пачатку красавіка загадчыка артапеда-траўматалагічнага аддзялення, вядомага ў вобласці хірурга Вячаслава Букача «за сістэматычнае невыкананне без важных прычын службовых абавязкаў па кантролі за працай аддзялення».

### Фугас у Вячы

У рэчцы Вячы побач з вёскай Паперняй Мінскага раёну дзеці выявілі выбуханебяспечны прадмет. Па трывозе была выклікана перасоўная група размініравання воінскай часці 3310 Унутраных войскаў МУС Беларусі пад кіраўніцтвам падпалкоўніка Сяргея Іванчыка. Сапёры ўстанавілі, што гэта 76-міліметровы асколачна-фугасны артылерыйскі снарад. Яго вывезлі ў бяспечнае месца і знішчылі.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1750**

## ПАЛАЦЫ

# На «фабрыцы здароўя» – дохлы настрой




Фота Ул.Шлапака

На прадзіманай красавіцкім халадком зялёнай лагчыне ля Нямігі – яна ўжо мае адрас: праспект Машэрава, 22 – усе сядзяць. Трактарысты – у кабінах землярыйнай тэхнікі, начальства – на бясконцых планёрках у будоўнічым вагончыку, брыгада з рыдлёўкамі – на сырой глебе. *Працяг на стар.2*

**Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478**

# Веймар – важныя кансультацыі

*Напярэдадні размовы з Лукашэнкам расійскі прэзідэнт правядзе кансультацыі з немцамі.*

12 красавіка мае адбыцца паседжанне Вышэйшага дзяржаўнага савету расійска-беларускага саюзу. На ім мяркуецца прыняць серыю дакументаў эканамічнага характару, якія дапамогуць вызначыць далейшую інтэграцыю Беларусі і Расіі.

Але нашмат большае значэнне для Масквы будзе мець іншае мерапрыемства. На гэтым тыдні ў горадзе Веймары адбудуцца расійска-германскія міжурадавыя кансультацыі па самым шырокім коле праблем. У сувязі з гэтым Германію чарговы раз наведае прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін.

Варта адзначыць, што міжурадавыя кансультацыі з Германіяй пры ўдзеле ключавых міністэрстваў двух краін праводзяцца штогод.

Разам з урадавымі чыноўнікамі Пуціна будуць суправаджаць дзве сотні дзеячаў палітыкі, эканомікі, культуры і сродкаў масавай інфармацыі. Яны стануць удзельнікамі форуму «Пецярбургскі дыялог», на якім будуць абмяркоўваца пытанні палярпшэння нямецка-расійскіх стасункаў.

Канцлер Шрэдэр і прэзідэнт Пуцін мяркуюць скарыстаць урадавыя кансультацыі дзеля абмеркавання шляхоў вырашэння праблем на міжнародным узроўні. Прынамсі, менавіта пра гэта з'явілася неафіцыйная інфармацыя з дыпламатычных і іншых установаў Германіі і Расіі. Сцвярджаецца, што на парадку дня саміту ў Веймары стаяць праблемы, звязаныя з Блізкім Усходам, Іракам, збліжэннем *NATO* і Расіі. Апрача таго, лідэры Германіі і Расіі будуць размаўляць пра Калінінградскую вобласць і Каўказ.

Вялікія надзеі ўскладаюцца на расійскую дэлегацыю, у якую ўвайшлі прадстаўнікі буйных банкаў і сярэдніх прадпрыемстваў. Мяркуецца, што будзе падпісанае інвестыцыйнае пагадненне ў сферы вытворчасці мэблі. А магчымыя зрухі па пазыках могуць ужо неўзабаве зняць праблемы буйных інвестыцый у расійскую эканоміку.

Па некаторых тэмах будучых расійска-германскіх кансультацый можна меркаваць, што на іх будзе згадваца і Беларусь. Гэта датычыць яе стасункаў з Іракам, *NATO* і пэўнай яе ролі ў далейшым лёсе Калінінградскай вобласці.

*Заканчэнне на стар.6*

# Хабар на 6 гадоў

*Амаль праз пяць месяцаў пасля пачатку працэсу калегія Гомельскага абласнога суду пад старшынствам Анатоля Тозіка вынесла вырак былому намесніку генеральнага дырэктара светлагорскага аб'яднання «Хімвалакно» Валерыю Надзеждзіну. Ён асуджаны да 6 гадоў турэмнага зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.*


Фота IREX/ProMedia

Арышт Валерыя Надзеждзіна ў снежні 2000 году быў з ліку гучных. Падчасператрусу ў ягоным доме супрацоўнікі Гомельскага абласнога ўпраўлення Камітэту па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Беларусі знайшлі буйную суму даляраў і нямецкіх марак.

Яшчэ больш сюрпрыз чакаў іх у гаражы Надзеждзіна. Тут некалькі дзесяткаў тысяч даляраў наогул пакрыліся цвіллю. Гаспадар патлумачыў, што проста забыўся на іх.

Надзеждзіна арыштавалі. Некалькі месяцаў ён правёў у зняволенні, а потым быў адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

У суд былога намесніка кіраўніка светлагорскага «Хімвалакна» прывяла ў лістападзе мінулага году ягоная сястра. Незадоўга да гэтага медыкі прызналі Надзеждзіна інвалідам 1 групы па зроку.

Абвінавачванні следства ў хабарніцтве Валеры Надзеждзін прызнаў толькі часткова. Распавёў суду, што сапраўды атрымліваў ад партнёраў аб'яднання «Хімвалакно» заахвочванні валютай. Дакладней, ад прадстаўнікоў нямецкіх фірмаў «Доктар Тэадор Бёме», «Хёкст», «Кларыянт» ды іншых. Аднак Надзеждзін не лічыў гэта хабарам. Як ён заявіў на судзе, гэта была падзяка «за добрую працу па заходніх мерках».

Пра «меркі» на следстве Надзеждзін таксама згадваў: 0,5–1,5 працэнта ад кошту падпісанага кантракту.

Хабар у суме 60 тысячаў даляраў ад Яўгена Маморцава, маскоўскага прадстаўніка замежнай фірмы «ЦХТ», якая пастаўляла ў Светлагорск розныя хімічныя рэчывы, абвінавачванне абвяргаў.

Не прызнаваў Надзеждзін і пакупку за валюту трохпакаёвай кватэры на вуліцы Прафсаюзнай у сталіцы Расіі. «Кватэру ў Маскве, – казаў ён у судзе, – купіла цешча».

Адзінае, супраць чаго не пярэчыў Надзеждзін, датычыла факту прысваення расійскіх грошай за камандзіроўку. У пераводзе на беларускія рублі – 39,2 МЗП. Следчыя кваліфікавалі гэта як крадзеж шляхам злоўжывання службовым становішчам.

Гісторыя з камандзіровачнымі выглядала даволі банальна. У сакавіку 1998 году намеснік генеральнага дырэктара накіраваўся ў Маскву нібыта на перамовы з ААТ «Міжрэгіёнгаз» адносна паставак сыравіны. Насамрэч Надзеждзін лётаў у Нямеччыну, пра што сведчаць і штампы пампежнага кантролю ў ягоным пашпарце.

Зглядзеўшы ў дзеяннях Валерыя Надзеждзіна нямала крыміналу, следства, якое вяла Гомельская абласная пракуратура, не пацвердзіла, аднак, існавання ў яго замежных валютных рахункаў.

Разбор у судзе цягнуўся з перапынкамі амаль 5 месяцаў. Калегія па крымінальных справах абласнога суду прыйшла да высновы, што Валеры Надзеждзін сапраўды атрымаў хабар ад замежных фірмаў у асабліва буйных памерах – 92 тысячы даляраў ЗША і 101 тысячу нямецкіх марак. Прызнаны ён вінаватым і ў крадзяжы шляхам злоўжывання службовым становішчам. А вось пакупка кватэры як легалізацыя злачынных даходаў судом адхілена.

У абвінавачых высновах, як, дарэчы, і ў даследаванні пракуратуры ў адносінах былога намесніка генеральнага дырэктара, не закраналіся ўмовы і асобы, што стварылі своеасаблівы дах над светлагорскім «Хімвалакном» і па сутнасці спрыялі злоўжываннем.

Крадзяжы тут працягваліся і пасля затрымання Надзеждзіна. Арыштаваны былі начальнік аддзелу знешнеэканамічных сувязяў Сяргей Салагук і ягоны намеснік Уладзімір Елістратаў. Яны патрапілі пад падазрэнне ў тым, што разам з яшчэ чатырма памагатымі скралі ў аб'яднання звыш 1 мільёна даляраў ЗША. Гэта своеасаблівы рэкорд у ашукванні свайго прадпрыемства. Наколькі вядома, Салагук і Елістратаў рыхтавалі кантракты з замежнымі фірмамі на пастаўку для «Хімвалакна» сыравіны па завышаных цэнах.

Грошы ад сваёй знешнеэканамічнай дзейнасці «сапраўдныя хімікі» не хавалі ў гаражах і панчохах, а пераводзілі на замежныя банкаўскія рахункі. Па некаторых звестках, у Чэхію. Менавіта там знаходзіліся і двое кампаньёнаў Салагука і Елістратава.

Апроч таго, у аб'яднанні за фінансавыя махінацыі арыштаваны яшчэ сем чалавек. Аднак гэта ўжо тэма асобнай размовы.

Што ж да Валерыя Надзеждзіна, то, паводле выраку суду, ён адразу быў узяты пад варту і адпраўлены за краты ў следчы ізалятар. У яго застаецца права цягам тыдня абскардзіць рашэнне абласной калегіі ў Вярхоўны суд.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

ПАЛІТЫКА

# Журналісты на лаве падсудных

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Міліцыя затрымала 14 чалавек. Аднаго потым адпусцілі, а пратаколы на астатніх у той жа дзень разглядзеў суддзя па адміністрацыйных справах Зміцер Дземчанка. Прысуды ён закончыў чытаць ужо пасля закрыцця суду – у 18.35. Уласны карэспандэнт газеты «День» Анджэй Пісальнік атрымаў 10 сутак арышту, столькі ж – Стас Пачобут, які піша для «Навінак». Андрэй Мялешка атрымаў 8 сутак арышту, 4 сутак – Аляксандр Дварэцкаў. Па 3 сутак атрымалі Вітаўт Руднік і Зміцер Ягораў. Карэспандэнтка «Беларускага Часу» Ірына Чарняўка аштрафавана на 30 мінімальных заробкаў, Алена Сіневіч – на 20 «мінімалак». Абвешчаны таксама два папярэджанні.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ, Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# З'езд без сенсацыяў

6 красавіка на сваім шостым з'ездзе Аб'яднаная грамадзянская партыя выбрала новае кіраўніцтва. Кадравых сюрпрызаў з'езд не прынёс: на чарговы тэрмін пераабраны Анатоль Лябедзька, ягонымі намеснікамі сталі Васіль Шлындзікаў, Аляксандр Дабравольскі, Яраслаў Раманчук і Сяргей Альфер – апошні стаў адзіным новай асобай у кіраўніцтве АГП. Ягоны папярэднік Павел Данейка добраахвотна сышоў у адстаўку, але застаўся сябрам партыі.

З'езд пачаўся з хвіліны маўчання: 6 красавіка споўнілася роўна тры гады з дня таямнічай смерці намесніка старшыні Вярхоўнага Савету 13 склікання Генадзя Карпенкі. Хвілінай маўчання дэлегаты з'езду спамянулі і «тых, каго няма сёння з намі»: Юрыя Захаранку, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага...

Анатоль Лябедзька сцвярджае, што партыя распачала «працэс збірання асобаў і прафесіяналаў». 30 сакавіка ў Палітраду ўвайшлі былыя патэнцыйныя кандыдаты ў прэзідэнты Міхаіл Чыгір і Павел Казлоўскі, прафсаюзныя лідэры Анатоль Паўлаў і Кузьма Касэўскі, былы першы намеснік міністра адукацыі Генадзь Пятроўскі. Старшыня АГП мяркуе, што «бліжэйшым часам іншыя знакавыя асобы такога ж узроўню прыйдуць у АГП». Відаць, трэба разумець, што пад «іншымі» А.Лябедзька меў на ўвазе заўважаных на з'ездзе ў якасці гасцей яшчэ трох былых патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты: Уладзіміра Ганчарыка, Аляксандра Ярашука і Міхаіла Марыніча.

**Рыгор БУЯН**



Фота Ул.ШЛАПАКА

# Прарэктар пад судом

Крымінальная справа прарэктара па навуковай працы Мінскага інстытуту кіравання Андрэя Харука, 1968 году нараджэння, накіравана ў суд Заводскага раёну Мінску. Ён абвінавачваецца ў махлярстве, замаху на злачынства і ў падробцы, вырабе, выкарыстанні і збыце падробных дакументаў, штампаў, пячатак.

Паводле паведамлення прэс-цэнтру пракуратуры Мінску, расследаваннем устаноўлена, што ў перыяд з 4 лістапада 2000 году па 29 чэрвеня 2001 году, працоўны прарэктарам па навуковай рабоце Мінскага інстытуту кіравання, Харук, нібыта дзеля аплаты праходжання стажыроўкі студэнтаў у горадзе Рычмандзе (штат Вірджынія, ЗША) і прадастаўлення жылой плошчы для прапіскі ў Мінску, шляхам махлярства сістэматычна завалодваў грашовымі сродкамі 36 чалавек. Памер украдзенага склаў у цэлым 30 795 даляраў. Гэткім жа шляхам ён спрабаваў атрымаць у адной з пацярпелых яшчэ 1 900 даляраў.

Таксама, паводле звестак пракуратуры, Харук на працягу лютага–чэрвеня 2000 году сістэматычна займаўся падробкай дакументаў, штампаў і бланкаў на сваё імя і на імя іншых асоб. Ён падрабляў працоўныя кніжкі, бланкі дыпломаў кандыдата і доктара навук, пячаткі Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Ламаносава. Частку падробных дакументаў ён выкарыстоўваў для сябе, частку прадаваў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Тыдзень у падвале

Цэлы тыдзень, з 26 сакавіка па 3 красавіка, беларускі прадпрымальнік праседзеў зачыненым у падвале дома ў паселішчы Умба Мурманскай вобласці, паведамілі мясцовыя СМІ са спасылкай на прэсслужбу УУС. Мужчына, пакінуты выкрадальнікамі без нагляду, здолеў выбрацца з падвалу і заявіў у міліцыю, што яго там замкнулі двое малазнаёмых грамадзян. Высветлілася, што 62-гадовы жыхар Беларусі прыехаў у Мурманскую вобласць для продажу закупленага на радзіме тавару. У дарозе ён пазнаёміўся з двума мужчынамі, якія пераканалі яго ў тым, што Умба – гэта вялікае заможнае паселішча, дзе тавар вельмі проста рэалізаваць. Ашуканцы прывезлі прадпрымальніка ў далёкае паселішча на беразе Белага мора, забралі ў яго грошы і іншую маёмасць і зачынілі ў падвале.

Асобы выкрадальнікаў высветлены, вядзецца іх пошук.

**Алег САКАЛОЎ**

ТРАГЕДЫЯ

# Людзі гінуць за метал

5 красавіка пракуратура Гомельскага раёну ўзбудзіла крымінальную справу па факце гібелі людзей.

Гаворка ідзе пра знойдзеныя напярэдадні каля вёскі Цыкуны побач з высакавольтнай лініяй электраперадачы тры абгарэлыя трупы мужчын. Побач з імі знаходзілася вяровачная лесвіца з так званымі кошкамі – прыстасаваннямі, каб лазіць па слупах, – а непадалёк стаяў аўтамабіль «Жыгулі» са знятымі заднімі сядзеннямі. Як лічаць супрацоўнікі міліцыі, нябожчыкі хацелі скрасці электраправады, думаючы, што ў іх шмат алюмінію. Паводле папярэдняй версіі, яны пераблыталі лініі электраперадачы: побач стаіць такая ж ЛЭП, але з адключаным напружаннем. Акрамя таго, алюмінію ў тых правадах вельмі мала.

Асобы ахвяраў ужо высвятлены. Адзін з іх нідзе не працаваў, другі працаваў у мясцовым калгасе, трэці – на адным з заводаў Гомеля.

**Ірына ШАНЦАВА**

ЗАТРЫМАННІ

# Абвінавачванне для дэкана

Супрацоўнікі ўпраўлення па Гомельскай вобласці Камітэту па арганізаванай злачыннасці і карупцыі МУС Беларусі затрымалі дэкана геолага-геаграфічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Ф.Скарыны Георгія Сербіна. Як стала вядома БелаПАНу, 5 красавіка яму прад'яўлена абвінавачванне ў атрыманні хабару і ён змешчаны ў следчы ізалятар.

Дэкан быў затрыманы на тэрыторыі аднаго з гаражных кааператываў Гомеля ў той момант, калі пачаў разгружаць машыну з будаўнічымі матэрыяламі на суму 500 тысяч рублёў. Гэты груз быў атрыманы ім у якасці платы ад адной са студэнтак за вырашэнне праблем з вучобай.

Як паведамілі БелаПАНу ва ўпраўленні, гэта не адзіны факт такога кшталту. Паводле словаў супрацоўнікаў міліцыі, дэкан атрымліваў аддзяку ад студэнтаў і за перавод з платнага аддзялення на бясплатнае, прычым не заўсёды яна насіла матэрыяльны характар. Не выключана, што яго паводзіны будуць кваліфікаваны як прымус да дзеянняў сексуальнага характару – у адпаведнасці з артыкулам 170 Крымінальнага кодэксу.

**БелаПАН**

# Новыя шукальнікі золата

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Летась І.Макараў публічна абяцаў інвеставаць у эканоміку Беларусі 200 мільёнаў даляраў.

Падчас сустрэчы з І.Макаравым беларускі кіраўнік расстаўляў апошнія кропкі над «і» напярэдадні буйнога распродажу. Каб захаваць твар, А.Лукашэнку даводзілася абнародаваць галоўную ўмову акцыянавання – «бяспека дзяржавы і працоўных калектываў прадпрыемства». Па словах А.Лукашэнкі, ён ужо сфармаваў сваё асноўныя падыходы да гэтага этапу акцыянавання і цяпер жадае давесці свае ідэі да патэнцыйных пакупнікоў.

Учора ж А.Лукашэнка сустрэўся з прэзідэнтам «ЛукОЙЛу» Вагітам Алекперавым. Апошняму была паабяцаная «поўная празрыстасць» прыватызацыйных працэсаў. Падчас сустрэчы беларускі кіраўнік адзначыў, што працэс прыватызацыі «не з'яўляецца для Беларусі чымсьці надзвычай важным», паведамляе прэс-служба прэзідэнта. Паводле А.Лукашэнкі, прадпрыемствы працуюць «у нармальным рэжыме», працоўныя калектывы ўпэўненыя ў стабільнасці.

Дарэчы, падчас абедзвюх сустрэчаў беларускі кіраўнік не стрымаўся і ўпікнуў «Балтыку», праўда, не называючы яе. Маўляў, не ведала, што рабіла, калі ўкладала 10 мільёнаў даляраў у «Крыніцу». А цяпер яшчэ патрабуе вярнуць грошы, нягодніца!

Гэтае рандэву з патэнцыйнымі інвестарамі – далёка не апошняе. Мяркуецца, што на чарзе – сустрэчы з кіраўнікамі «*Славнефти*», «*Сургутнефтегаза*» і іншымі буйнымі гульцамі на беларускім прыватызацыйным рынку.

Адзначым, што пасля прэзідэнцкіх выбараў расійскія кампаніі вялікім натоўпам кінуліся з прыватызацыйнымі прапановамі. Незалежна ад таго, колькі будзе ім каштаваць той ці іншы інвестыцыйны праект, расіяне імкнуцца найперш «аслупаваць участак», на якім можна будзе потым намываць «золата». Але, як і на Кландайку пазамінулага стагоддзя, фартуна ўсміхнецца далёка не кожнаму.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

 

# Зямля бацькоў

*Каб правільна прадаваць зямлю бацькоў, трэба ведаць тры рэчы: дзе яна пачынаецца і канчаецца, колькі каштуе і хто пакупнік.*

Кажуць, што адзін мужчына тутэйшы патрапіў у турму. А кабета спрабуе яго адгэнуль выцягнуць. Цалкам зразумела. Турма не вяселле, а сваіх у бядзе не кідаюць. От бядачка і дадводзіць тым, каторыя дапамагчы абяцаюць, што чалавек не харошы, бо ваяваў «за родзіну» на баку рускіх у Чачэніі.

Вельмі разумная жанчына, скажу вам, панове чытачы. Бо для нашага начальства знайшла вельмі слушны і зразумелы довад. Начальства ж таксама ў свой час перла ва ўсе дзіркі, у камсоргі ды ваенныя, бо хацела жыць лепей і забыцца назаўсёды пра родны калгас. Душу ж мае, як ва ўсіх. Душа беларуская – што вада: мяккая, толькі часам грэблі рве. І прымае іншым разам розныя дзіўныя формы.

У некаторых, напрыклад, язык паварочваецца галоўнага чыноўніка, што хаўрусам наняла парадку пільнаваць, «бацькам» зваць. Праз такое найменне ў душы іхнай робіцца брыдка, і ў тых, хто гэна чуе, робіцца брыдка. Бо ён мае сыноў, каторых выгадаваў і вывез з чортавага калгасу.

Тая вёска, дзе яны жылі, ім Бацькаўшчына. І ў кожнага тутэйшага ёсць гэткая вёска, ці мястэчка, ці горад. А за імі могілкі. А навокал зямля. На той зямлі працавалі дзяды тысячу гадоў, між іншым, без усялякай патэтыкі. Бог, паглядзеўшы, зрабіў зямлю нашай. І тое, што на ёй, зрабіў нашым. За гэнае шчасце, мне так здаецца, адабраў ён у нас хітрасць.

Вось паселі начальнікі Беларусі за вялікі стол. Усе прыгожыя, тоўстыя, у белых кашульках з гальштукамі, хоць ты зараз у прэзідэнты. Куды. Ёсць яшчэ каму сядзець у галаве стала, рэй весці. Каб усе іх бачылі, паказваюць самі сябе праз тэлевізар.

Пра што ж гаворка? Прыляцелі ўжо шпакі. Трэба засяваць зямлю бацькоў. Трэба карміць вялікі народ. І ўсё дзеля таго мае наш партызанскі край. Акрамя грошай. Няма за што купіць саляркі сталёвым коням. Няма чым плаціць зарплату перадавым аратым. Няма на тое, і на сёе няма.




Так некалі ў нашай вёсцы прапойца Лапцік ішоў увесну пазычаць каня і збожжа на пасеў, бо ўжо і сякеру сваю знёс да Бэркі ў шынок. Дагаспадарыўся, карацей кажучы. Ну, мы не такія. Маем яшчэ што прадаць. Заводы ўсе – запушчаныя жалезкі, але людзі на іх ...

Людзі на іх такія самыя, грамадзяне начальнікі, як і вы, і як усе. Паўчакалі яны з калгасу сваіх і зараз у вялікай трывозе. Хто ж хоча ў калгас вяртацца, га? А хто хоча нашых людзей купляць разам з нашымі заводамі? Філантропы? Не, найхутчэй суседзі нашыя.

Тут, праўда, як маладзёны гавораць, фішка ў тым, што і суседзям не тое што сеяць, ім бы еці не было чаго, каб не нафта, разам з якой іх ужо даўно купілі дзядзькі з-за мора. Мы ж з імі на той нафце замуцілі славянскае сяброўства і шчырую братэрскую любоў. Бо ў нас прамысловасць збеглыя калгаснікі разбудавалі вялічэзна немерную, без нафты нам капец, будзем хадзіць голыя.

І вось, гадоў роўна сем таму, задумала начальства зрабіць славянскую нафтаздабычу. Сталі раіцца і ў сеяць, і ў будні дні, на самалётах то ў Мінск, то ў Маскву адзін да аднаго лятаць, адзін аднаго ў прыёмных марнаваць, начальнікаў на той славянскай вытворчасці мяняць, акцыямі мяняцца, як тым махоркай. І што? Не, не даў нам Бог хітрасці.

Покуль нашыя раяцца, як найлепей і каму прадаць славянскія бізнесы, некаторыя нават яшчэ толкам не прыватызаваныя, суседзі сумесны бізнес ужо цягнуць на глабальны рынак. Агенцтва Рэйтэр (*Reuters*, 03.04.2002) паведаміла, што ў Маскве спадар Браверман расказвае агентам імперыялізму, колькі каштаваць будзе крыху Лукойлу альбо братэрскай кампаніі «*Славнефть*».

«Мы прадамо долю «*Славнефти*» ў кастрычніку-лістападзе і будзем пазбягаць продажу тым часам акцыяў кампаніяў таго ж самага сектару», – сказаў спадар Браверман. Ён падкрэсліў таксама, што доля «*Славнефти*» будзе прададзеная не менш чым за 300–350 мільёнаў даляраў. Паводле звестак з расейскай Дзяржмаёмасці, зыск ад продажу дзяржаўнай часткі Лукойлу і «*Славнефти*» складзе 85% ад мэтавых прыбыткаў з расійскай прыватызацыі на 2002 год, прыкладна 1,12 млрд. амерыканскіх даляраў.

Мабыць, прыйдзецца нам спачатку павучыцца ў суседскіх начальнікаў гандляваць зямлёй бацькоў, а потым «*Славнефть*» перайменаваць адпаведна з расавай прыналежнасцю новага ўладальніка кантрольнага пакету.

А з другога боку, во, знайшлі грошы. Ды нашыя калгасы мелі на 1 лютага крэдыторскую запазычанасць 1 045 300 000 000 (адзін трыльён сорак пяць мільярдаў трыста мільёнаў) рублёў. А як адсеемся, то і будзе рыхтык гэнулькі, колькі руская за свае акцыі атрымаюць.

Нам болей трэба. Толькі хто ж дасць. І сядзяць тутэйшыя начальнікі, утарапіўшыся ў вялікі стол. І слухаюць свайго Старшыню. І паўстаюць у іхных разумных галовах дзіўныя мроі: добры бацька ў ватоўцы і гумовых ботах, бліскучы мерседэс, карова Мілка, цягнік №2, груша на мяжы і брыдкія вокны следчага ізалятару...

А калгаснікі? А што калгаснікі...

... будуць жаць
і губляць з перасьпелых калоссяў
залатыя зярняты
на Белую нашу зямлю
(Анатоль Сыс)

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

## Міліцыя бароніць кішэню «Земфіры»

4 красавіка ў выніку сумеснага рэйду супрацоўнікаў праваахоўных органаў з прадстаўнікамі кампаній «Беларускае музычнае агенцтва» (БМА) і «Белюрэкалогія» на тэрыторыі гандлёвага дома «Ждановічы» было канфіскавана больш за 100 дыскаў з прыкметамі кантрафактнасці. Як паведаміў БелаПАНу дырэктар «Беларускага музычнага агенцтва» Уладзімір Пугач, асноўным аб'ектам увагі праваахоўных органаў сталі пірацкія кампактдыскі расійскай групы «Земфіра», правы на ўзнаўленне і распаўсюджванне якіх на тэрыторыі Беларусі належаць БМА.

Паводле словаў Уладзіміра Пугача, эксклюзіўны дыстрыб'ютар альбома «Земфіры» «14 тыдняў цішыні» ў Беларусі – кампанія «Вэст рэкардс». На канфіскаваных аўдыёкасетах адсутнічае галаграма кампаніі, акрамя таго, запіс і паліграфія невысокай якасці.

У Беларусі ёсць прэцэдэнты крымінальных працэсаў па аўтарскім праве, якія дэманструюць рэальную працу закону «Аб аўтарскім праве і сумежных правах».

«Мы б настойліва рэкамендавалі апаратарам рынку адмовіцца ад спробаў продажу пірацкай прадукцыі, бо гэта пагражае сур'ёзнымі праваьымі наступствамі, а пакупнікам раім набываць толькі ліцэнзійны прадукт, каб засцерагчыся ад нізкаякасных падробак», – сказаў Уладзімір Пугач.

**Маша ПЯТРОВА**

## Мінгандаль не ўжывае беларускія цукеркі

Міністэрства гандлю прадзіць няправільную палітыку ў дачыненні да беларускіх вытворцаў, не абараняючы іх і дыктуючы свае ўмовы. Такую думку выказаў 4 красавіка на прэсканферэнцыі ў Мінску інвестар СП ААТ «Спартак» і ААТ «Камунарка» Марат Новікаў.

Паводле словаў Новікава, у сітуацыі, калі няма дапамогі з боку дзяржавы, «не дзіўна, што беларуская прадукцыя не карыстаецца на радзіме аўтарытэтам». У прыватнасці, зніжаюцца аб'ёмы рэалізацыі прадукцыі «Спартака», вытворцы часта працуюць «на склад».

Як паведаміў дырэктар па маркетынгу і збыце СП ААТ «Спартак» Андрэй Калінчук, для эфектыўнай працы і ўмацавання сваіх пазіцый на ўнутраным рынку, забеспячэння яго кандытарскімі вырабамі фабрыка ў 1997 годзе першай у галіне зрабіла карэнную перабудову маркетынгавай палітыкі. Яе сутнасць зводзілася да падзелу функцый вытворцы і прадаўца прадукцыі, што дазволіла наладзіць эфектыўную сістэму збыту. Для ўмацавання пазіцый сваёй гандлёвай маркі «Спартак» вывеў на рынак якасна новы від прадукцыі класа «прэміум», які карыстаецца павышаным попытам.

Чакаецца, што ў 2003 годзе фабрыку «Спартак» першай у СНД прымуць у Сусветную асацыяцыю кандытараў.

**Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ**

Нічога дзіўнага, што «Камунарка» і «Спартак» губляюць пакупніка. Зараз знайсці каробку цукерак з назвай у беларускай мове амаль немагчыма, а мова яны зніклі зусім. Таму для пакупніка няма ніякай розніцы, якой фабрыкі цукеркі купляць – страчана іх галоўная знешняя адметнасць, а шакалад і начынне што ў нас, што ў расіянаў усё роўна прывазныя. Калі трэба каго вінаваціць – дык лепш за ўсё саміх сябе.

# Абмежаваны выбар?

*Існаванне бюджэтнай, камерцыйнай медыцыны дае людзям магчымасць выбару. Але ў нашай краіне ён абмежаваны таўшчынёй кашалька. Легальныя платныя паслугі развіваюцца крыху больш за дзесяцігоддзе. Гэтага часу недастаткова, каб сістэма стала працаваць без заганаў.*

### Ці застанецца бясплатная медыцына?

Апошнім часам у грамадстве шмат гавораць пра тое, што за паслугі нават дзяржаўных устаноў аховы здароўя прыйдзецца плаціць з уласнай кішэні. На самой справе гэта не зусім так. Як паведаміў начальнік Галоўнага ўпраўлення лячэбна-прафілактычнай дапамогі насельніцтву Міністэрства аховы здароўя Аляксандр Цыбін, ужо распрацаваны Дзяржаўныя мінімальныя стандарты ў ахове здароўя. У іх вызначана, якія паслугі грамадзянам павінны аказвацца толькі бясплатна. Адпаведныя дакументы Міністэрства аховы здароўя перадаў на разгляд у Міністэрства эканомікі і Міністэрства фінансаў. Аляксандр Кірылавіч запэўніў, што Міністэрства аховы здароўя складала гэты дакумент па прынцыпе: не адабраць таго, што людзі цяпер маюць. Але ці хопіць бюджэтных сродкаў на ўсе прапановы медыкаў, стане вядома пасля адпаведных папшняў іншых міністэрстваў. Як ужо пісала НАША СВАБОДА, у прынятым законе «Аб ахове здароўя» дзяржаўнай медыцыне вызначана галоўная роль. Трэба толькі памятаць, што медыцына – частка народнагаспадарчага комплексу і яна не можа быць лепшая і багацейшая за іншыя.

### За што і каму плаціць?

Так склалася, што ў дзяржаўнай і камерцыйнай медыцыне ў асноўным працуюць адны і тыя ж дактары. На розных месцах працы не мяняецца ўзровень іх кваліфікацыі. Мяняюцца толькі ўмовы працы і матэрыяльная зацікаўленасць. Многія людзі лічаць, што ў камерцыйнай медыцынскай установе яны плацяць грошы за ветлівасць. У гэтым ёсць доля праўды. Возьмем іншы бок. На рынку медыцынскіх паслуг існуюць старажылы, якія ўжо могуць дазволіць сабе набыць прыкладна за 200 тысяч даляраў дыягнастычнае абсталяванне. Толькі адны яго набываюць і тым самым павышаюць якасць паслуг і ўзровень сервісу для пацыента, а іншыя канцэнтруюцца толькі аб сваіх прыбытках і на элементарнае ультрагукавое даследаванне адпраўляюць пацыента ў дзяржаўны дыягнастычны цэнтр. І што цікава, усе гэтыя цэнтры маюць дазвол на аказанне платных паслуг насельніцтву. Дык вось калі сам пацыент прыйдзе і заплаціць у касу за абследаванне, то яно будзе каштаваць, напрыклад, 5 тысяч рублёў, а калі накіруюць з таккога «несумленнага» цэнтру, то кошт павысіцца да 10 тысяч. Гэта ў той час, калі дазволеная рэнтабельнасць паслуг камерцыйнай медыцыны не павінна перавышаць 30%.

Галоўны прынцып медыцыны – не нашкодзь – не залежыць ад формы ўласнасці медыцынскай установы. Але бывае, што ў выніку несумленнай рэкламы і пагоні доктара за заробкам пацыенту навязваюць непатрэбныя паслугі. Ці калі пачынае дзейнічаць прынцып: за вашы грошы любы капрыз. Доктар павінен цвёрда сказаць пацыенту, што малатраўматычная эндаскапічная аперацыя яго не выратуе ці што на вось гэтым зубе металакерамічная каронка трымацца не будзе.

### Думка спецыяліста

По каментар мы звярнуліся да прэзідэнта Беларускай асацыяцыі дактароў Паўла Міхалевіча:



– Платныя паслугі ў сістэме аховы здароўя існуюць ва ўсім свеце. І гэта натуральна, калі пацыент хоча і можа аплачваць больш камфортныя ўмовы знаходжання ў стацыянары ці дадатковае палепшанае харчаванне, пэўны від даследавання ці лячэння, якія не ўваходзяць у спіс гарантаванага лячэння і абследавання. Іншая рэч, што вызначаць кошт платных паслуг ва ўмовах дзяржаўнай сістэмы аховы здароўя, без праграм медыцынскага даследавання і лячэння, як гэта практыкуецца пры медыцынскім страхаванні, складана і нярэдка прыводзіць да перагібаў ці неабгрунтаваных коштаў.

Так, напрыклад, існуючы сёння парадак цэнаўтварэння на платныя паслугі ў сістэме Міністэрства аховы здароўя, мякка кажучы, няправільны. Таму ўсе гаспадарча-разліковыя ўстановы сістэмы Міністэрства ледзь зводзяць канцы з канцамі, а побач размешчаныя камерцыйныя структуры аналагічнага профілю працуюць нармальна, бо там пры фармаванні цэнаў выкарыстоўваюцца не адміністрацыйныя падходы, а законы рынку.

Што да камерцыйных медыцынскіх структур, якія працуюць пры дзяржаўных медычных установах, то гэта крайне няправільна і было асуджана яшчэ ў часы СССР. Дзяржаўныя медычныя ўстановы могуць самі арганізаваць дадатковыя платныя паслугі і не дазваляць сродкам сплываць з сістэмы аховы здароўя. Узаемаадносіны паміж дзяржаўнымі і камерцыйнымі ўстановамі павінны будавацца на дамовах. І калі якія-небудзь медычныя паслугі па накіраванні прыватнай фірмы выконваюцца дзяржаўнай установай, то менавіта гэтая фірма павінна іх аплачваць, а не пацыент. Пры гэтым у кошт паслуг павінна быць уключана ўсё: амартызацыйныя адлічэнні, камунальныя паслугі, працазатраты і г.д. Тады і можна будзе паглядзець, куды пойдзе пацыент, дзе яму выгадней будзе лячыцца.

Другі бок гэтага пытання: падвышаючы заробак за кошт платных паслуг, мы зніжаем сацыяльную абароненасць пацыента. Гэтыя платныя павінны вырашацца надзвычай далікатна і абгрунтавана. У якасці адмоўнага прыкладу магу прывесці выпадкі патрабавання аплаты за лячэнне з іншагародніх грамадзян. Наколькі я разумею, Канстытуцыя і законы ў нас адзіныя для ўсёй дзяржавы, і ўсе грамадзяне маюць роўныя правы. А калі і ёсць неабходнасць аплаты, то разлічвацца за гэта павінны тэрытарыяльныя медычныя ўстановы, а не пацыенты.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Окончательный диагноз

## *Болен ли Лукашенко?*

*Года 3-4 по Беларуси упорно ходят слухи о возможных болезнях президента. Кто-то говорит об этом заговорщески, кто-то – с нескрываемым раздражением. Но тема здоровья А.Г. неизменно присутствует в застольных беседах. Особенно часто говорят о том, что А.Г. страдает мучительными головными болями...*

Если сложить воедино многочисленные слухи, так или иначе характеризующие состояние здоровья первого лица государства, получится простотаки апокалиптическая картина. Можно даже говорить о своеобразном рейтинге мнимых «болезней» Лукашенко. Так, на первом месте по частоте упоминания всегда оказываются все те же ***«головные боли»***. Сильные, резкие, вызывающие головокружение. На втором месте – со значительным отставанием – идут ***злокачественные новообразования различной локализации***. Хотя, опять же, чаще прочих упоминаются опухоли головного мозга. Третьи в этом «черном списке» – разговоры о том, что А.Г., дескать, страдает от так называемых ***«атипичных форм алкогольного опьянения»***. И эта форма, говорят «знатоки», проявляется у первого лица в виде «немотивированного буйства». Кстати, именно этим объясняется практически полное равнодушие Лукашенко к спиртному. Впрочем, для славянских народностей весьма характерно считать непьющего человека серьезно больным. Четвертое место занимают упоминания о ***простатите.*** Это вообще банальность. Известно, что практически каждый мужчина по мере старения сталкивается с простатитом или аденомой предстательной железы. И спекуляции на эту тему выглядят просто никчемно. Наконец, уже притчей стала невероятная «бледность» Лукашенко. Что позволяет «специалистам» говорить о развитии тяжелых форм ***анемии*** у А.Г.

Не слишком ли много для одного человека? И не слишком ли откровенно, ведь речь идет о президенте?

### Заинтересованные лица

Внятный комментарий на эту тему от официальных лиц получить невозможно. Более того, именно ближайшее окружение президента чаще всего инспирирует очередную волну подобных слухов. Для чего оно это делает?

Кроме ближайших «друзей» А.Г., разговоры о болезнях президента стали излюбленной темой бесед и оппозиционных ньюсмейкеров. У каждого своя собственная версия того, как именно Лукашенко страдает от болезней, где он лечится, и что из этого получится в ближайшем будущем. Почему оппозиция так любит подобные разговоры?

Парадоксально, но и друзья, и недруги Лукашенко, запуская очередную «медицинскую страшилку», руководствуются абсолютно идентичными соображениями. Первых, т.е. «ближний круг», Лукашенко слишком часто унижает. Вторые же, т.е. политические оппоненты, не в состоянии переиграть А.Г. в большой политической игре. Даже приблизиться к нему не в состоянии. На фоне яркого, пусть и отрицательного имиджа А.Г., альтернативные фигуранты смотрятся чрезвычайно блекло. Но мало того, Лукашенко пытается тотально контролировать все управленческие потоки.

Именно поэтому, и «свои», и «чужие» уже лет 5-6 страдают серьезным комплексом неполноценности. Чтобы как-то компенсировать собственные страдания, представители власти и оппозиции регулярно снабжают нас очередными кулуарными сообщениями о плохом здоровье А.Г.

А что же на самом деле? Болен ли Александр Григорьевич настолько, чтобы уже через 6-8 месяцев политическая ситуация развивалась без Лукашенко? Вопрос далеко не так прост, как может показаться на первый взгляд. И тот факт, что А.Г. частенько пользуется спортивным инвентарем, еще не свидетельствует о его хорошем здоровье.

Прежде всего, заметим, что необходимо различать органические поражения (т.е. собственно болезнь) и банальное эмоционально-чувственное напряжение относительно здорового человека, которое может проявляться в невротических и астенодепрессивных формах. В случае А.Г. зачастую происходит подмена понятий. На основании некоторых экспрессивных выходок президента ему нередко приписывают серьезную органическую патологию. Что абсолютно неправомерно. Почему так происходит?

Не секрет, что А.Г. излишне эмоционален. И даже выступая в публичных местах, он совершенно не пытается маскировать свои истинные чувства. Отсюда крайне редкий для государственных руководителей такого высокого ранга стиль общения с элитами и словарный запас, используемый при этом. А.Г. частенько сам, если так можно выразиться, додумывает чужие мысли. Причем всегда с негативным контекстом «на выходе». У него нет положительных переживаний.

Но осуждать Лукашенко за непосредственность его реакций, за эмоциональные вспышки просто некорректно. Во-первых, это, как уже было сказано, отличительный стиль Лукашенко. Что наедине с «ближними», что на широкой публике. Во-вторых, А.Г. не был знаком с азами большой политики, существующей в рамках открытой информационной системы. Он так и не понял, что обладание верховной властью неизбежно сопряжено с тщательным подбором каждого публичного слова и выверенностью действий.

Мифические фобии Лукашенко также имеют сугубо неорганическое происхождение. Нынешние отношения Лукашенко и различных элит (в том числе представителей крупного российского бизнеса) не предполагают и толики любви. Отношения строятся исключительно на взаимном страхе и недоверии. Лукашенко уже совершил множество шагов, которые не дают оснований надеяться на его последующее непрезидентское комфортное существование среди местной элиты.

Однако несколько специфическое поведение, нравы А.Г. являются не столько следствием болезни, сколько следствием его внутренней сущности...

### Локализация боли

Нам удалось поговорить с несколькими людьми, имевшими в разное время отношение к медицинскому обслуживанию А.Г. Естественно, особого желания делиться накопленными знаниями никто из них не проявлял. Тем не менее, кое-что мы собрали.

Лукашенко действительно часто страдает от мучительных головных болей. Правда, в этом нет ничего сверхъестественного. Причина подобных устойчивых цефалгий скорее имеет вертеброгенное, т.е. позвоночное происхождение. А теперь стоит задуматься, так ли уж редки в наше время и так ли уж опасны шейный остеохондроз и развившаяся на этом фоне «дискогенная радикулопатия». О том, что спина и позвоночник А.Г. наиболее уязвимые места говорили все наши собеседники. Отметим также и такую деталь. В президентском самолете в небольшом техническом отделении установлено современное медицинское оборудование, позволяющее во время полета резко уменьшить нагрузки на позвоночник.




Таким образом, можно говорить о том, что обычный дегенеративно-дистрофический процесс, возникающий на почве утраты межпозвонковыми дисками их амортизирующей функции (остеохондроз), способствует возникновению у Лукашенко сильных болей различной локализации. Сначала банальных радикулитных, а затем и мучительных головных. В свою очередь эти боли, возможно, провоцируют знаменитые президентские бессонные ночи, после которых на Лукашенко, как говорится, нет лица. Само собой, заинтересованная публика пытается списать не всегда презентабельный внешний вид президента на некий страх, который якобы угнетающе действует на А.Г. И, дескать, именно страх заставляет Лукашенко резко ограничивать свое общение, частенько уединяться *etc*. На самом деле, это все не больше, чем еще один привлекательный миф.

Впрочем, есть еще одно объяснение тому, что А.Г. периодически на день-два исчезает из активной публичной политики. Ряд наших контактов отмечали, что можно рассуждать также о незначительных сосудисто-дегенеративных проблемах головного мозга А.Г. В частности, с некоторой натяжкой можно говорить о возможном атеросклерозе сосудов головного мозга с последующим преходящим развитием регионарных сосудистых кризов. Недостаточность снабжения кровью, а значит, и кислородом отдельных участков головного мозга вполне способна провоцировать не только периодические головные боли. Зачастую данная патология провоцирует развитие так называемых «непсихотических нарушений психической деятельности». Непсихотические нарушения в свою очередь проявляются характерными неврозоподобными симптомокомплексами, их астенодепрессивными вариантами, а также явлениями навязчивых состояний (сомнений, страхов).

В специальной литературе упоминается, что неврастенический синдром имеет ряд обязательных проявлений. Среди которых, в первую очередь, следует выделить снижение работоспособности, общую слабость и вялость. Наряду с повышенной утомляемостью, снижением активности часто можно наблюдать неустойчивость артериального давления. Человек с трудом засыпает, ночью часто просыпается. Кроме того, он постоянно ощущает головную боль, локализующуюся преимущественно в области лба и затылка. Отметим также, что непсихотический синдром предполагает невыдержанность, раздражительность. Одним словом, аффективную неустойчивость. Кстати, именно об аффективной неустойчивости А.Г. часто говорят его приближенные. Говорят, что без камер и публики Лукашенко разговаривает крайне жестко, не стесняясь в выражениях и действиях.

Может ли вся вышеперечисленная симптоматика иметь отношение к здоровью Лукашенко? Может.

### Эмоциональные перегрузки

Особо выделим тот факт, что А.Г. крайне редко появляется на публике, скажем так, не в очень хорошей форме. Понятно, что если человек испытывает некое серьезное недомогание, он постарается на некоторое время уединиться, перейти на попечение личных врачей. Между прочим, поездка Лукашенко в Австрию совсем не походила на стремление «тяжело больного человека» излечиться от мучительных страданий. В Альпах А.Г. постоянно был на публике и вел даже чересчур подвижный образ жизни.

Это позволяет подкрепить медицинский вывод, сделанный нашими собеседниками: если А.Г. и страдает определенными заболеваниями, то они не носят тяжелый и необратимый характер.

Между прочим, по достижении определенного возраста, человек вряд ли может избежать более менее серьезных проблем со здоровьем. И тем более это проблематично при постоянном стрессовом режиме. Ведь большая политика предполагает два обязательных фактора риска. Во-первых, политик постоянно находится на публике. И чем выше ранг политика, тем более пристальное внимание ему обеспечено. Во-вторых, большая политика, равно как и большой бизнес, предполагает большую интригу. Можно с уверенностью говорить о том, что на определенном этапе «большой политик» бывает вынужден отказаться от друзей. Он оказывается в одиночестве – один против всех. А потому ему приходится прибегать к не совсем честным манипуляциям, чтобы удержаться наверху.

Лукашенко умеет приобретать врагов как никто другой. А, следовательно, поддержание его политической устойчивости требует серьезных нервных затрат.

### Развитие процесса

Допустим, что А.Г. действительно страдает выраженными головными болями, имеющими либо позвоночное, либо сосудистое происхождение. Само по себе наличие подобных заболеваний вряд ли следует рассматривать как нечто экстраординарное. Другое дело, совместимо ли это с выполнением должностных функций. Придется разочаровать радикальную часть оппозиции, но в случае А.Г. и речи нет о недееспособности.

Скажем так, Лукашенко относительно здоров. По крайней мере, его нынешнее физиологическое состояние вполне приличное. Однако А.Г. свойственна, как мы установили, выраженная аффективная неустойчивость. Что для авторитарного типа управления чревато тяжелыми последствиями. Однако это имеет скорее чисто политическое значение. А.Г. в силу своего характера так и не сумел сформировать, хотя бы вокруг себя, новую элитную прослойку. А потому вряд ли имеет смысл ожидать продолжения нынешнего управления сразу после отставки Лукашенко.

Многочисленные слухи на тему нездоровья А.Г. не имеют под собой сколько-нибудь внятной аргументации. И, тем не менее, они почему-то появляются с завидной регулярностью. Все просто. За счет подобных спекуляций оппонентам А.Г. удается успешно атаковать «спортивный имидж молодого президента». Кстати, для рядовых белорусов «спортивность» Лукашенко не имеет особого значения. Для них более характерно почитание «мудрых старцев» у власти.

А вот слухи о болезни Лукашенко, грамотно вбрасываемые в широкий электоральный обиход, весьма серьезно провоцируют в обществе сомнения относительно перспектив А.Г. Между прочим, для ликвидации подобных негативных слухов достаточно было сделать несколько профессиональных утечек информации в оппозиционные СМИ. Особенно это было важно во время визита Лукашенко в ту же Австрию. Однако никто не торопится развевать слухи о «нездоровьи» президента. Более того, таинственность вокруг А.Г. нарастает. Следовательно, кое-кто из ближайшего окружения Лукашенко весьма заинтересован в циркулировании подобных слухов.

В чем же здесь выгода? На этот вопрос можно ответить двояко. С одной стороны, Лукашенко как бы удерживается ближайшим окружением в состоянии стресса. И таким образом, он постоянно нацелен на отражение любых внешних и внутренних атак, угрожающих финансово-карьерным интересам ближнего окружения. С другой стороны, провоцируется политическая нестабильность. Кроме того, А.Г. вынужден держать всех (даже – якобы «ближних») на приличном расстоянии. Он по-прежнему никому не может доверять, а значит, А.Г. не способен создать устойчивую команду или коалицию на длительный срок.

Так или иначе, периодический неважнецкий вид Лукашенко обусловлен не столько органическим заболеванием, сколько эмоционально-стрессовыми переживаниями. А стресс Лукашенко всегда испытывает только по одному поводу. Как найти приемлемый для себя выход из властного тупика.

**Михаил ПОДОЛЯК**

# Балтыка – месца марскіх баталій

*Ад Калінінграду і да поўначы Эстоніі, уздоўж узбярэжжа даўжынёю сама менш 1 000 кіламетраў, па-над Рыжскай затокай, што ўрэзалася ў яго, выцягнуліся адзін за адным шэсць буйных партоў. Некаторыя з іх, такія, як Талін, памятаюць яшчэ часы Ганзы (з XIII па XV ст.), што прынеслі росквіт на беразе Балтыкі; у іншых (Рыга і Вентспілс у Латвіі, Клайпеда ў Літве) побач з партовымі кранамі – завостраныя лютэранскія званіцы і пазалочаныя макаўкі праваслаўных цэркваў. Нельга забываць і пра новы порт Буцінге. А паміж Літвой і Польшчай – расійскі Калінінград.*



Для ўсяго Балтыйскага ўзбярэжжа гэта парты далёка не другарадныя. Праз найбуйнейшы з іх, Вентспілс, праходзіць штогод да 34,8 мільёна тон, праз Талін – 29,4, Клайпеду – 19,4; Рыгу – 13,4 мільёна тон. Яны з усмешкай пазіраюць на Хельсінкі і Капенгаген, у кожным з якіх грузаабарот складае 10 мільёнаў тон. Але канкурэнцыі на другім баку затокі амаль не чуваць, бо працоўная сіла ў краінах Балтыі ў 6 разоў таннейшая, чым у Фінляндыі. Балтыйскія парты таксама бяруць верх над Санкт-Пецярбургам з ягоным неглыбокім фарватэрам, які 5 месяцаў у год пакрыты лёдам, і над Калінінградам, які пазбаўлены выхаду да мора, знаходзіцца ў кепскім стане і мае малыя прапускныя магчымасці (ягоны грузаабарот не перавышае 5 мільёнаў тон).

У 1997 годзе 40% марскіх гандлёвых перавозак Расіі праходзілі праз парты Балтыі. 60% эстонскага экспарту – гэта «паўторны» экспарт расійскіх прадуктаў, у асноўным – нафты. Транзітны гандаль складае 20% сукупнага ўнутранага прадукту ўва ўсіх краінах Балтыі. Але па-за лініяй «усходзахад» гэты гандаль траціць свой сэнс: балтыйскія парты служаць толькі перавалачнымі пунктамі. Пасля абвешчання незалежнасці краіны Балтыі, уважаючы на складаную палітычную сітуацыю ў рэгіёне, застаюцца пад пагрозаю, бо Расія кантралюе трубаправоды і чыгункі.

У рэшце рэшт, Расія ведае, калі перакрываць краны. Так было зроблена ў выпадку з Літвой, калі Расію адхілілі ад прыватызацыі нафтаперапрацоўчага заводу «Мажэйкю Нафта». З 1994 году Расія падвоіла мыты на чыгуначныя перавозкі для нерасійскіх цягнікоў, абвінавацiўшы краіны Балтыі ва ўціску расійскай меншасці. Па звестках уладаў Таліна, куды нафту ў асноўным дастаўляюць чыгункаю, «эстонскія транзітныя фірмы і чыгунка страцілі да 500 мільёнаў эстонскіх кронаў (28,33 млн. даляраў)».

У той жа час для расійскіх нафтавых кампаній балтыйскія парты маюць шэраг выгодаў. У гэтых партах – глыбокі фарватэр, і яны ніколі не замярзаюць. Апроч таго, з 1990 году паміж імі існуе вострая канкурэнцыя ў барацьбе за спадчыну: адзіны нафтавы тэрмінал знаходзіцца ў Вентспілсе, адзіны нафтаперапрацоўчы завод і адзіны нафтаправод (Клайпеда-Вільнюс) – у Літве. «Парты Таліна, у прыватнасці Мууга, – ультрасучасныя дзякуючы інвестыцыям найбуйнейшых заходніх кампаній. Новы літоўскі порт Буцінге створаны дзеля таго, каб пахіснуць усёмагутнасць Вентспілсу».

Пачынаючы з 1990 году, а найперш у апошнія пяць гадоў, актыўнасць балтыйскіх партоў вырасла. Танаж эстонскіх партоў дасягнуў да 2000 году 30 мільёнаў, а ў 1990 годзе складаў 13 мільёнаў. Парты імкнуцца яшчэ больш падвысіць сваю актыўнасць, пра што сведчаць шматлікія інвестыцыйныя праекты: у Рызе пачнуць будаваць трэці нафтаправод, а пяты па ліку тэрмінал у Вентспілсе зможа ў чатыры разы павялічыць грузаабарот порту.

Але ніхто не гарантуе высокага ўзроўню пастаўак. Балтыйскія парты плануюць развіваць транзітныя перавозкі з усходу на захад, але мясцовы энергетычны рынак дае замала прасторы для манеўра. Краіны Балтыі разлічваюць на павелічэнне транзіту нафты з радовішчаў Азербайджану і Казахстану. Але давядзецца перадолець багата перашкодаў. Няма ніякай яснасці і адносна партнёрства Расіі і ЕС у галіне энергетыкі.

Нарэшце, «у мэтах эканамічнай бяспекі Расіі» быў ухвалены праект будоўлі двух партоў у Фінскай затоцы, коштам 2 мільярды даляраў. Гэтае рашэнне можа стаць адказам на ўваход краінаў Балтыі ў *NATO*. Першы порт, Прыморск, чый тэрмінал саступае толькі гіганцкаму тэрміналу Новарасійску, пачаў працу ў снежні 2001 году. Але сур'ёзны недахоп гэтага порту ў тым, што ён таксама некалькі месяцаў знаходзіцца пад лёдам.

**Le Figaro, Францыя**

# Гавел скрытыкаваў Еўрапейскі Саюз

Чэшскі прэзідэнт Вацлаў Гавел падчас свайго выступу ў італьянскім Сенаце выказаўся супраць памкненняў збудаваць з еўрапейскай эканомікі найвялікшую гаспадарчую імперыю ў свеце. «Хіба ж у Еўропе сапраўды нельга жыць добра, а толькі застаецца даганяць і пераганяць Амерыку? – пытаўся Гавел. – Чаму мы заўсёды абвяшчаем, што хочам быць найлепшымі ды наймацнейшымі з усіх? Чаму заўсёды мы настаўляем сябе супраць кагосьці, зараз, напрыклад, не супраць Азіі, але супраць Амерыкі?»

# Грузіны сыходзяць з Абхазіі

У Тбілісі падпісаны пратакол аб стабілізацыі становішча ў Абхазіі, які абавязвае грузінскі бок да 10 красавіка вывесці вайсковыя падраздзяленні з Кадорскай цясніны. Як вядома, у кастрычніку 2001 году Грузія ўвяла войскі ў цясніну, матывуючы гэта патрэбаю абараніць сёлы, у якіх жывуць сваны, ад баевікоў. Сама Абхазія адназначна ўспрыняла ўвод войскаў як агрэсію, якая парушае раней падпісаныя пагадненні, і апелявала да Расіі і назіральнікаў ААН.

У студзені бягучага году бакі ўсё ж падпісалі пратакол, згодна з якім грузінскія вайскоўцы мусілі сысці з абхазскай тэрыторыі. Але да апошняга часу ўмовы пратаколу не выконваліся. Пасля прыняцця Эдуардам Шэварднадзе амерыканскіх інструктараў для падрыхтоўкі грузінскіх салдатаў становішча ў рэгіёне распалілася. Як працягваюць сцвярджаць у Сухумі, падрыхтоўка аперацыі супраць чачэнскіх тэрарыстаў у Панкіскай цясніне – толькі прыкрыццё для сапраўдных намераў Тбілісі. Асаблівую насцярожанасць выклікаў той факт, што з кастрычніка мінулага году ў Кадорскай цясніне няма міжнародных назіральнікаў. Прадстаўнікі ААН пакінулі месца падзеяў пасля таго, як чачэнскія баевікі Руслана Гелаева збілі верталёт з украінскім экіпажам і назіральнікамі.

Тэкст пратаколу, які прадугледжвае вывад грузінскіх войскаў з Кадорскай цясніны да 10 красавіка, падпісалі прадстаўнікі грузінскага і абхазскага бакоў, спецпрадстаўнік генсека ААН у Грузіі Дытэр Бодэн і выканаўца абавязкаў камандуючага міратворчымі сіламі СНД у зоне грузіна-абхазскага канфлікту генерал-маёр Аляксандр Яўцееў. Цікава, што згодна з умовамі пратаколу прадстаўнікі ААН вернуцца ў Кадорскую цясніну толькі пасля таго, як грузінскія вайскоўцы (часці Мінабароны, спецназ і пагранічнікі) у поўным складзе пакінуць вярхоўі Кадоры. Складальнікі дакументу ўключылі ў тэкст і гарантыі бакоў што да бяспекі жыхароў цясніны.

**Utro.ru**

# Веймар – важныя кансультацыі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Апошнім часам Пуцін, у адрозненне ад Лукашэнкі, шчыра прызнае цяжкасці з іракскім рэжымам. Блізкія да Крамля эксперты пачалі праводзіць з амерыканскімі калегамі паўканфідэнцыяльныя «круглыя сталы», на якіх выявілася падабенства пунктаў погляду на сутнасць і будучыню рэжыму Садама Хусейна. Расейцы ўжо сталі казаць, што шматмільярдныя даўгі Іраку яны гатовыя аддаць і не пры Хусейну.

Менавіта ў стасунках з *NATO* па-ранейшаму назіраецца заўважнае адрозненне становішча Беларусі і Расіі. Апошняй усё цяжэй быць адвакатам малапрадказальных паводзінаў беларускага кіраўніка. Менавіта з-за Лукашэнкі Брусель настаяў на тым, каб выключыць Беларусь з абмеркавання «калінінградскай праблемы», якая нарастае ў сувязі з пашырэннем *NATO* і Еўрапейскага Саюзу. Трэба думаць, усё больш гэта разумее і Пуцін, у якога, дарэчы, у Калінінградзе жыве цешча.

Як вядома, Германія – галоўны гандлёвы партнёр Беларусі і Расіі. З прычыны адмысловага асабістага стаўлення Пуціна да Германіі, дзе ён працаваў савецкім разведчыкам, за апошнія два гады расійска-германскія стасункі набылі яшчэ большую дынаміку.

Вялікае псіхалагічнае значэнне для немцаў мае той факт, што расійскі прэзідэнт стаў першым замежнікам такога рангу, які выступіў у бундэстагу на нямецкай мове.

Даволі блізкія адносіны ўсталяваліся паміж Пуціным і Шрэдэрам, а таксама іх сем'ямі. І гэта заўважна ўплывае на плённае развіццё стасункаў паміж дзвюма краінамі.

А вось адносіны Мінску і Берліну, ад якіх усё больш вее прахаладай, не могуць служыць мастом паміж Берлінам і Масквой. А маглі б. Хоць бы з прычыны геаграфічнага становішча Беларусі. Шэраг назіральнікаў лічаць, што дэманстратыўнае непрыняцце, якое праявілі беларускія ўлады да вядомых у Германіі палітыкаў – пасла Ханса-Георга Віка і дэпутата бундэстагу Уты Цапф, – толькі ўзмацнілі і без таго негатыўны вобраз кіраўнічага рэжыму Беларусі.

Не варта забывацца і на тое, што канцлер Шрэдэр прыйшоў да ўлады не толькі пры падтрымцы Сацыял-дэмакратычнае партыі Германіі, але і вельмі ўплывовых у ягонай краіне грамадскіх арганізацый і грамадзянскіх ініцыятываў. А стаўленне беларускага рэжыму да ўласных сацыял-дэмакратаў і няўрадавых арганізацый агульнавядомае.

Адпаведна ставяцца да рэжыму Лукашэнкі прыхільнікі Шрэдэра. Дарэчы, кажуць, Шрэдэр дасюль не можа забыцца, як яму, тады кандыдату ў канцлеры, у час перадвыбарнай кампаніі літаральна падсунулі на Гановерскім кірмашы Лукашэнку. Тая кароткая сустрэча з адыёзным беларускім лідэрам, арганізаваная галавой беларускага МЗС хітрамудрым Іванам Антановічам, выклікала ў Германіі рэзкую крытыку і магла дорага каштаваць Шрэдэру ў яго далейшай палітычнай кар'еры.

Паводле прагнозаў палітолагаў, на выбарах у Германіі, якія маюць адбыцца сёлета, шанцы Шрэдэра неадназначныя. Дэмакратычныя выбары допускаюць не толькі захаванне, але і страту ўлады. У Германіі, як і ў іншых цывілізаваных краінах, ані адміністрацыйны рэсурс, ані рэсурс спецслужбаў проста не спрацоўваюць. Працэсы рэгулююцца дэмакратычнымі механізмамі, важны складнік якіх – недзяржаўныя СМІ. Зрэшты, іншых там і няма. У выпадку абмеркавання «праблемы Лукашэнкі» (а менавіта гэтак усё часцей сталі называць сітуацыю з Беларуссю) на саміце ў Веймары няцяжка здагадацца, чым будзе адказваць Пуцін на развагі свайго нямецкага сябра. Безумоўна, наўрад ці Пуціна задаволіць магчымая параза Шрэдэра на восеньскіх выбарах. Не выключана, што, вярнуўшыся дамоў, Пуцін падзеліцца з саюзнікам уражаннямі ад сустрэчы з канцлерам. Але, як кажуць інфармаваныя чыноўнікі, Лукашэнка ўмела дэманструе ў Маскве адну рэакцыю, дома – іншую. Значыць, малаверагодна, што яго неяк уразіць меркаванне пра яго ці канцлера Шрэдэра, ці Папы Рымскага, ці іншых дзеячаў у нашым узаемазвязаным свеце.

Не сакрэт, што «беларуская мадэль» па-ранейшаму застаецца галаўным болем для Крамля і расійскага ўраду. Таму будучае паседжанне Вышэйшага дзяржаўнага савету Саюзу Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь можа стаць шматзначным для Лукашэнкі і яго найбліжэйшага атачэння.

Можна нагадаць, што з самага моманту з'яўлення гэтай саюзнай структуры нязменным старшынёй яе пакуль застаецца кіраўнік беларускай дзяржавы. Ці адбудзецца замена старшыні, ніхто ўголас казаць не важыцца.

**Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ**



Веймар. Белведэр. Тут будуць праходзіць кансультацыі



# Антыкаталіцкія дзеянні ў Пскове

У Пскове спынена будаўніцтва каталіцкага храму. Пробашч каталіцкай парафіі ў Пскове святар Кшыштаф Каралеўскі атрымаў афіцыйны загад, падпісаны начальнікам інспекцыі Дзяржархбудкагляду вобласці Валерыем Палупанавым, у якім «будаўніцтва абвяшчаецца прыпыненым ад 3 красавіка 2002 году». Між тым за тры дні да гэтага Бюро дзяржаўнай пазаведамаснай экспертызы Дзяржбудархітэктуры пры адміністрацыі Пскоўскай вобласці выдала станоўчае экспертнае заключэнне па праекце пабудовы каталіцкага храму і рэкамендавала яго да зацвярджэння. У заключэнні пералічаны ўсе прадстаўленыя на экспертызу дакументы, якія сведчаць пра тое, што праект быў узгоднены ўва ўсіх інстанцыях. Сярод іх – распараджэнне адміністрацыі гораду пра арэнду зямельнага ўчастка пад будоўлю, пратакол горадабудаўнічай рады, выпіска з паседжання навукова-метадычнай рады па ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры і г.д. Экспертнае заключэнне зацверджана начальнікам бюро М.Сялянцавым.

Але праз тры дні той жа М.Сялянцаў падпісаў дакумент пра неабходнасць паўторнага разгляду праекту «з прыцягненнем усіх зацікаўленых арганізацый і асобаў».

Характэрна, што найбольшую цікавасць да пабудовы каталіцкага храму выявіў у апошнія дні архіепіскап Полацкі і Вялікалуцкі Яўсевій, які нават накіраваў адмысловыя лісты Прэзідэнту РФ Уладзіміру Пуціну і кіраўніку адміністрацыі Пскоўскай вобласці Яўгенію Міхайлаву.

«Не – свабоднай дзейнасці каталікоў у нашай краіне! – піша праваслаўны архірэй прэзідэнту. – Не мае патрэбы Расія ў каталіцкай місіі! Не абражайце нашага народа каталіцкай прысутнасцю!» Кіраўніка адміністрацыі Пскоўскай вобласці Яўгенія Міхайлава Яўсевій заклікае ўмяшацца, каб запабегчы будаўніцтву «грандыёзнага каталіцкага касцёла». Ён просіць зрабіць усё магчымае, «каб не даць запанаваць на Святой Пскоўскай зямлі разбуральнікам нашай Радзімы і народа – Рымскаму Папу і агідनаму для рускага народа каталіцызму».

Кіраўнік расійскіх католікоў біскуп Тадэвуш Кандрусевіч выказаў сур'ёзную занепакоенасць гэтым інцыдэнтам і звярнуў увагу на дзіўнае супадзенне: пабудова храму спынілася пасля звароту да ўладаў архіепіскапа Яўсевія. «Гэта вельмі небяспечны прэцэдэнт, – падкрэсліў біскуп Кандрусевіч. – Калі ён не будзе ўважліва даследаваны і не атрымае належнай ацэнкі, то па ўсёй Расіі можа пракаціцца хваля антыкаталіцкіх выступаў, вынікі якіх прадказаць немагчыма».

# «Маўзалейная» плошча

*На сталічным чыгуначным вакзале да гэтае пары вісіць расцяжка «З новым вакзалам – у новае стагоддзе!» Відаць, з аналагічным лозунгам у Мінску распачалі і рэканструкцыю плошчы Незалежнасці. Праўда, якіх бы тут выкшталцонасцяў і выгодаў ні зрабілі, плошчай 21-га стагоддзя назваць яе язык не павернецца датуль, пакуль каля Дома ўраду будзе стаяць помнік Леніну.*

Адно слова – анахранізм. Таму гэтая частка плошчы Незалежнасці падаецца нейкай маўзалейнай. І на аднайменнай станцыі метро ўсярэдзіне на платформе вісіць старая назва – «плошча Леніна». Але, што праўда, для замежных турыстаў помнік Леніну – адно з самых цікавых месцаў у беларускай сталіцы. Ці не ўсе з іх тут дастаюць фотаапараты, каб шчоўкнуцца на фоне аграмаднага Ільіча. На радзіме ў расповедах пра Мінск яны абавязкова згадаюць, чыя бронзавая постаць стаіць на самай галоўнай беларускай плошчы.

Багата хто з менчукоў шкадуе, што на хвалі нацдэмаўскага руху напрыканцы 1980-ых і на пачатку 90-ых гэты помнік не дэмантавалі. І не абавязкова было яго пераплаўляць. Каб не ўдацца ў помнікавы вандалізм і дзеля турыстычнай экзотыкі, можна было б перанесці Леніна куды-небудзь у іншае месца. Напрыклад, пачаць з яго стварэнне музею таталітарызму. Добрая ідэя. Вядомы знаўца гісторыі Мінску Захар Шыбека лічыць, што такі музей мог бы паўстаць нават у цэнтры гораду, скажам, у цяперашняй прэзідэнцкай рэзідэнцыі, колішнім ЦК кампартыі Беларусі, і каля гэтага будынка. На думку З.Шыбекі, апрача з'яўлення ў сталіцы яшчэ аднаго музею, з гэтага была б карысць для іміджу як цяперашняга, так і наступных кіраўнікоў беларускай дзяржавы. Яны б пазбавіліся асацыяцыі з савецкасцю.

Амаль усе архітэктары вам скажуць, што прыбіраць помнік Леніну з пляцоўкі каля Дома ўраду не выпадае. Не з ідэалагічных прычын, а таму што тады парушыцца тамтэйшы архітэктурны ансамбль. Помнік перад Домам ураду павінен быць. На жаль, намеры замяніць помнік Леніну на нешта больш годнае і нацыянальнае ні ўва што не ўвасобіліся. Варыянтаў было шмат. Заір Азгур нават зрабіў «Пагоню» – вершніка на кані. Праўда, чый твар у яго будзе тады, так і не вырашылі. Гэта мог бы быць і Кастусь Каліноўскі, і Тадэвуш Касцюшка. Калі Ленінскі праспект стаў праспектам Скарыны, была таксама думка адпаведным чынам і помнік замяніць.

Зрэшты, у першапачатковай задуме аўтара праекта Дома ўраду архітэктара Іосіфа Лангбарда ніякага помніка, без арганічнае прысутнасці якога зараз на плошчы Незалежнасці не абысціся, не прадугледжвалася зусім. Дом ураду мусіў быць з каланадай звязкай паміж бакавымі карпусамі на манер яшчэ аднаго будынку з Лангбардавай архітэктурнай спадчыны ў Мінску – Акадэміі навук.



У абвешчаным на пачатку 1930-ых гадоў конкурсе на помнік (зразумела, што толькі Леніну і нікому іншаму) перамог ленінградскі скульптар Мацвей Манізер. Ягоны сямімятровы і самы высокі ва ўсім СССР правадыр пралетарыяту быў пастаўлены на чорны пастамент у 1933 годзе. А вось Кіеву, між іншым, Манізер праз 6 гадоў зрабіў ужо не Леніна, а Шаўчэнку. Цікава, што самы першы помнік Леніну ў былым Савецкім Саюзе таксама з'явіўся ў Беларусі – яшчэ пры жыцці – у Краснаполлі, што на Магілёўшчыне. А помнікавая ленініяна ў Мінску пачалася з 1925 году, калі Ільіча ў метале ўсталявалі перад Камуністычным універсітэтам, які цяпер носіць назву Белдзяржуніверсітэт.

Манізерава скульптура прастаяла да Другой сусветнай вайны: у 1941 годзе фашысты, як толькі ўвайшлі ў горад, адправілі яе на пераплаўку. Але пасля вызвалення Мінску ў 1944 годзе ў першую чаргу быў адноўлены якраз помнік Леніну – у тым жа даваенным выглядзе.

У сярэдзіне 50-ых у Леніна з'явіўся канкурэнт – на Цэнтральнай плошчы паўстаў бронзавы Сталін, які быў на 10 метраў вышэйшы за Леніна. Дзеля яго ўстаноўкі быў узарваны Дамініканскі касцёл, які, на думку ўладаў, аніяк не пасаваў да Сталіна. Гіганцкая скульптура, зноў жа самая вялікая ў СССР, прастаяла на гэтым месцы да лістапада 1962 году. Тады, на асабісты загад Машэрава, салдаты бурылі помнік і пастамент цэлы тыдзень.

У Мінску з помнікамі што раней, што зараз – проста бяда. Па-першае, іх зусім у нас нягуста, па-другое, шмат пастаўленых абы-каму. У параўнанні са сталіцамі нашых краінаў-суседак Мінск у гэтым элеменце урбаністычнай аздобы відочна прайграе. Хіба што ў мінскіх скверах са скульптурамі больш-менш ладна. Цікавыя постаці знерухоміліся ў метале ў Міхайлаўскім скверыку паблізу Прывакзальнай плошчы. Узяць хоць бы дзяўчынку пад дзіравым парасонам, «дзяўчынку пад стронцыем», як называе яе народ, знаёмы з творчасцю Уладзіміра Караткевіча. Многія менчукі любяць адпачыць у скверыку каля Купалаўскага тэатру, дзе знаходзіцца самая старая скульптура ў беларускай сталіцы. Гэта фантан, дзе хлопчык гуляе з лебедзем. Кампазіцыя гэтая была ўзведзеная з нагоды з'яўлення ў Мінску ў 1874 годзе водаправоду.

Усё яшчэ няма помніка такой культавай гістарычнай асобе, як Францішак Скарына. Помнічак з пантэону ў дворыку БДУ ў разлік не бярэм. Разам з тым няма ні Каліноўскага, ні Міцкевіча і ні шмат каго яшчэ. Хоць у апошнія некалькі гадоў у Мінску прапісаліся падораныя масквічамі і кіяўлянамі Пушкін і Шаўчэнка, прычым з мастацкага гледзішча не дужа густоўныя. Але, як кажуць, дораному каню ў зубы не глядзяць. Неўзабаве з'явяцца помнікі Машэраву на праспекце ягонага імя, партызанам – на скрыжаванні Партызанскага праспекту з вуліцай Енісейскай і нават коннаму Жукаву – побач з танкам каля Дома афіцэраў.

У часе рэканструкцыі плошчы Незалежнасці да Леніна нібыта мусіць далучыцца помнік «народу-працаўніку». Як ён будзе выглядаць, пакуль невядома. Не выключана з'яўленне тут і якіх-небудзь іншых помнікаў. Пасля аздабленчага напаўнення плошчы помнікамі яна, можа, не будзе здавацца такой вялікай і пустой. Зараз жа гэта вельмі адчуваецца. Гэта не дзіўна, бо прапорцыі плошчы і будынкаў вакол яе, 5-6-павярховых, несувымерныя.

Плошча Незалежнасці – галоўная плошча. Па логіцы помнік на галоўнай плошчы – галоўны помнік гораду. Ленін у гэтай якасці выдатна характарызуе тое, што робіцца ў дзяржаве.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Псеўдапрагрэс Крамля

## *Інтэрв'ю вядомага апазіцыянера Уладзіміра Букоўскага італьянскім СМІ*

*Уладзімір Букоўскі – адзін з найбольш вядомых савецкіх дысідэнтаў у 1960-70 гадах. Ён 12 гадоў правёў у лагерах і кэдэбэшных псіхушках за тое, што супрацьстаяў камуністычнаму рэжыму. У 1976 годзе яго абмянялі на чылійскага камуніста Луіса Карвалана. У сваіх публіцыстычных творах («Новая душэўная хвароба ў Расіі: апазіцыя», «Ад утопіі да развалу», «Псіхіятрычны даведнік для дысідэнтаў» і інш.) крытычна аналізаваў дзяржаўныя прыярытэты камуністычнай і посткамуністычнай улады. Цяпер У.Букоўскі жыве і працуе ў Кембрыджы, яму 60 гадоў. Інтэрв'ю, якое тут публікуецца, ён даў у Турыне, куды быў запрашаны Італьянскім таварыствам сувязяў з міжнароднымі арганізацыямі.*



***– Спадар Букоўскі, гадоў дванаццаць назад у кнізе «Ад утопіі да развалу» вы пісалі: «Наступіў момант, калі Захад павінен зразумець, што Гарбачоў нічым не адрозніваецца ад любога іншага камуністычнага рэфарматара. Прыйшоў час зразумець, што Гарбачоў і яго кампанія складаюць частку праблемы, а не частку яе вырашэння, а значыць, Захад павінен падтрымаць дэмакратаў, а не тых камуністычных рэфарматараў, якія аднойчы за ноч могуць ператварыцца ў катаў». Як вы лічыце, вашы тагачасныя песімістычныя прадказанні яшчэ актуальныя?***

– Гады два таму, калі Пуцін перамог на выбарах, быў у модзе папулярны анекдот па матывах байкі пра варону і лісіцу. Варона трымае ў дзюбе кавалак сыру. Ліса, каб завалодаць сырам, пытае: «Варона, будзеш галасаваць за Пуціна?» Варона маўчыць. «Ну, варона, так ці не?» Варона кажа «так», сыр падае ў лапы лісе. Варона разважае: «А калі б я адказала «не», што – было б інакш?» Гэты анекдот выдатна адлюстроўвае расійскую пазіцыю. Мы ідзём на галасаванне, каб выбраць паміж былым камуністам і былым супрацоўнікам КДБ. Наноў увайшлі ў моду метады КДБ. Замест таго, каб саромецца свайго мінулага, яны ім ганарацца. Незразумела, дзе канчаецца крымінальны свет і дзе пачынаецца наменклатура. Знікла незалежнасць СМІ, якія зноў пачала кантраляваць дзяржава, асабліва тэлебачанне. Журналістам пагражаюць. Народ запужаны. Тое, што адбываецца сёння, выклікае неспакой, а дзесяць гадоў панавання Ельцына – гэта дзесяць гадоў страчаных магчымасцяў.

***– Вы не верыце ў збліжэнне Расіі і Еўропы?***

– Я не веру, што ў нас ёсць хоць нейкая надзея стаць часткай Еўропы. Мне здаецца, што пераважае абыякавасць да Расіі, нібыта тут усе праблемы ўжо вырашаны. Калі ў 1945 годзе саюзнікі дамагліся радыкальнага знішчэння нацызму, дык у перыяд «халоднай» вайны ўсё развівалася інакш. Захад палічыў за лепшае рэфармаваць існуючую сістэму. Калі б той самы падыход быў прыкладзены да нацызму, сумняваюся, што ў Германіі ўсталявалася б дэмакратыя. СССР развaліўся, не вытрываўшы цяжару ўласнага глупства, калі стала зразумела, што індустрыяльная і эканамічная база занадта малая для амбіцыяў сусветнага маштабу. Меўся быць калапс, але Захад вырашыў інвеставаць у СССР, намагаючыся не дапусціць гэтага калапсу. За сем гадоў, што Гарбачоў стаяў пры ўладзе, інвестыцыі дасягнулі 45 мільярдаў даляраў. Гэта не дало СССР знікнуць з карты свету раней. Для Захаду заўжды найбольш важным было, каб Расія захоўвала стабільнасць. Гэта прыкладна тое ж самае, што мы цяпер адчуваем у адносінах да Кітаю. Нас не цікавіць Тыбет ці парушэнне правоў чалавека. Неабходна бараніць статус-кво, таму нават у часы ГУЛАГу ў першую чаргу ўсіх цікавіла стабільнасць, а не тое, што адбываецца з людзьмі.

***– Інакш кажучы, Расія яшчэ не да канца развіталася са сваёй аўтарытарнай мінуўшчынай?***

– Шмат у якіх усходніх краінах камунізм не знік, а працягваў існаваць, няхай сабе і ў прыхаваных формах. І сёння мы мусім канстатаваць, што камунізм адраджаецца ў шэрагу краінаў, не толькі ў Румыніі і ўва Украіне, але і ў Польшчы, і ў Германіі. І ніхто не занепакоіўся гэтым. Калі б пасля 1945 году нацысты перамаглі на выбарах, гэта было б шокам, а камуністы сёння набіраюць моц – такі вось кошт стабільнасці. Прадстаўнікі старога рэжыму не былі асуджаныя, і ўжо не будуць. Я не кажу пра канкрэтных асобаў, але пра сістэму ў цэлым. Згадайма Чачню. Існуюць доказы, што шматпавярховыя дамы ў Маскве былі ўзарваныя спецслужбамі, каб выклікаць хвалю нянавісці да чачэнцаў. Вайна ў Чачні была скарыстаная ў палітычных мэтах, яна дазволіла Пуціну і КДБ вярнуцца да ўлады і заваяваць народны давер.

***– Аднак падзеі ў Нью-Йорку крыху аслабілі ўвагу да гэтай справы.***

– Да 11 верасня яшчэ гучалі пратэсты супраць гэтых злачынстваў, але потым усё сціхла, бо ўдзел Расіі ў антытэрарыстычнай кааліцыі прызнаецца вельмі важным. Брытанскі прэм'ер-міністр асабіста прыехаў у Маскву, каб сказаць, што Расія «мае вялікі вопыт барацьбы з тэрарызмам». Гэта каласальная дурасць, улічваючы, што менавіта СССР вынайшаў сучасны тэрарызм і распаўсюдзіў яго па ўсім свеце праз арганізацыі «па вызваленні». Я бачыў тысячы дакументаў ЦК, дзе гаварылася пра стварэнне і падрыхтоўку тэрарыстаў практычна ва ўсім свеце. У кожнай краіне была адна ці нават некалькі груповак, якія фінансаваліся Масквой. Тое, што рускія робяць у Чачні, гэта не меншае злачынства, чым тое, што Мілошавіч рабіў у Косаве, аднак Мілошавіч цяпер у Гаазе, а Пуцін чамусьці не. Захаду зручна паводзіць сябе менавіта гэтак. Сёння ў Еўропе больш няма дзеячаў з дзяржаўным розумам, а толькі палітыкі.

***– Гэта значыць, у вас няма ніякага даверу да Еўрасаюзу?***

– Працэс еўрапейскай інтэграцыі, які цяпер дзейнічае, насцярожвае мяне. Я бачу падабенства паміж СССР і Еўрасаюзам. У СССР уладу мелі людзі, якія выбіраліся па чарзе і ні за што не адказвалі. Еўрасаюз – гэта тое ж самае.

**Cron**

## Сапраўдны «пярсцёнак Мінаса»

Гістарычная рэліквія, вядомая пад умоўнай назвай «залаты пярсцёнак Мінаса», аказалася сапраўднай. Ва ўсялякім разе, пасля таго як цяперашні ўладальнік рэліквіі – сын святара, якому аддалі пярсцёнак у 1928 годзе, знайшоўшы яго ў руінах Кноскага палацу на Крыце, – пагадзіўся перадаць знаходку на экспертызу, аказалася, што яе ўзрост складае 3 500 гадоў. Гэта значыць, што пярсцёнак быў зроблены ў тыя часы, калі жыў легендарны цар, «прыёмны бацька Мінатаўра», які заказаў Дэдалу збудаваць Лабірынт – жыллё для свайго брыдкага і жорсткага пасынка. Міністр культуры Грэцыі ў інтэрв'ю тэлебачанню заявіў, што рыначны кошт «пярсцёнка Мінаса» цяпер ацэньваецца ў 400 000 еўра. Але міністр спецыяльна агаварыў, «што гэты кошт наўрад ці адлюстроўвае яго сапраўдную вартасць».

**Пётр ІВАНОЎ**

## Новы Мінск



Плошча Незалежнасці, якая ў сваім звыклым выглядзе зараз дажывае апошнія дні, – не адзіная будаўнічая пляцоўка ў Мінску. Увогуле апошнім часам сталіцу накрыла новая хваля рэканструкцыяў. Мне, напрыклад, часта даводзіцца аб'язджаць зачыненую на рэканструкцыю вуліцу Аранскую, патрапляючы ў доўгія заторы на вузкіх дарогах Серабранкі. А пашыраць Аранскую да шасці палосаў будуць як мінімум яшчэ да канца году.

Калі ж казаць пра далёкую будучыню сталічных дарог, то, магчыма, Партызанскі праспект і праспект Машэрава некалі аб'яднаюцца і стануць адзінай магістраллю. Ва ўсялякім выпадку такія задумы ў гарадскіх планіроўшчыкаў ёсць. Тады горад атрымае другі пасля праспекту Ф.Скарыны магістральны дыяметр, які будзе праходзіць праз увесь горад напрасткі. Уладальнікам асабістага транспарту, а гэта сёння амаль кожны пяты жыхар сталіцы, такая дарога проста неабходная. Астатніх мінчукоў таксама можна абнадзеіць. Разглядаецца магчымасць у перспектыве выдзеліць грамадскаму транспарту на мінскіх дарогах асобную паласу, і тады яму нічога ўжо не будзе перашкаджаць рухацца без затрымак і згодна з раскладам.

Зачыніўся на рэканструкцыю парк Горкага, але мінчукі хутка змогуць адпачыць у новым парку на праспекце Ф.Скарыны ў раёне Уручча-6. Пераймаць вопыт Камароўскага рынку і паціху мяняць сваё аблічча пачнуць дробныя рынкі гораду, якіх у нас зараз налічваецца больш за два дзесяткі. Два з іх – на вуліцы Байкальскай і ў Серабранцы – пераедуць на новае месца. Апошні ўсяго на колькі трамвайных прыпынкаў далей – на вуліцу Якубава.

Нарэшце, сёлета павінна скончыцца будаўніцтва падземнага гандлёвага комплексу каля універмагу «Беларусь» плошчай больш за 3 тысячы квадратных метраў.

А на бліжэйшыя гады прыярытэтнае значэнне ўжо будзе мець будаўніцтва гіпермаркетаў. Сталічныя ўлады па прыкладзе заходніх краінаў маюць намер раскінуць па горадзе цэлую сетку такіх крамаў. Пакуль мяркуецца, што іх будзе не менш за 15.

За наступныя 30 гадоў, як плануецца, Мінск пашырыцца з 29 тысяч да 42 тысяч гектараў, большай часткай за кошт будаўніцтва «спальных раёнаў». Разрастацца ён будзе ва ўсе бакі, за выключэннем Усходу, бо гэты раён застанецца ў рэзерве. Паколькі сталічнае насельніцтва ўжо не прырастае, а толькі памяншаецца, то будаўніцтва новага жылля дасць магчымасць мінчукам палепшыць свае жыллёвыя ўмовы. Зараз стандарт жылля на аднаго мінчука не дацягвае нават і да 18 квадратных метраў, а ў сталіцах заходнееўрапейскіх краінаў ён большы ў 2-2,5 раза.

А вось уладальнікам кватэраў на першых паверхах у дамах на мінскіх праспектах варта ўжо сёння паклапаціцца пра сваю будучыню. Рана ці позна гарадскія архітэктары дабяруцца і да іхняй «крэпасці», бо ўжо зараз вырашана, што офісы і жыллё пасля будуць адтуль выцясняць, а на змену ім прыйдуць крамкі, кавярні, аптэкі ды цырульні...

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Найвялікшыя садысты свету

*У папярэднім нумары ў публікацыі з гэткай самай назвай былі змешчаны псіхалагічныя партрэты Нерона, Калігулы, Амін Дады – садыстаў, якім смяротныя стогны людзей прыносілі вялікую асалоду. У цытаванай кнізе Міранды Твіс «Самыя жорсткія мужчыны і жанчыны ў гісторыі чалавецтва» ёсць і іншыя персанажы, адно імя якіх можа служыць сінонімам да паняцця «пекла».*



**Улад Валашскі.** У параўнанні з гэтай рэальнай асобай, якая натхніла Брэма Стокера на стварэнне легендарнага літаратурнага персанажа – графа Дракулы, кніжны герой здаецца дробным хуліганам. Князь Улад Цэпеш, які тройчы захоўваў і страчваў каралеўства Валахію (на тэрыторыі сучаснай Румыніі), вінаваты ў смерці 100 000 чалавек, забітых за сем гадоў яго панавання.

Улад нарадзіўся ў 1431 годзе і амаль усё сваё дзяцінства правёў у турэцкім палоне. Апрача таго, венгры забілі яго бацьку і жыўцом пахавалі ягонага брата, выпаліўшы яму спярша вочы распаленым цвіком. Улад бачыў гэта і пакляўся бязлітасна адпомсціць.

Скарыстаўшы дыпламатычную хітрасць, князь у 1456 годзе завалодаў тронам і вырашыў адабраць уладу ў мясцовых феадалаў і аб'яднаць народ. Найлепшым сродкам для дасягнення палітычных мэтаў князь лічыў гвалт.

Каб дамагчыся вернасці сваіх васалаў, Улад ужываў жахлівыя спосабы. На яго загад быў зроблены вялізны кацёл, па перыметры якога ляжалі дошкі з прарэзанымі дзіркамі – туды прасоўвалі галовы ахвяраў. Затым у кацёл налівалі ваду і пачыналі грэць. Галовы асуджаных павольна варыліся ў пары.

Але самым жорсткім было пакаранне на палі. Яго князь скарыстоўваў найчасцей і атрымаў за гэта мянушку Улад-Саджальнік. Паміж ног ахвяры замацоўвалі намазаны тлушчам завостраны кол таўшчынёй каля 15 сантыметраў. Затым ногі асуджанага прывязвалі да коней, якіх пачыналі паганяць. Паступова кол уваходзіў у цела ахвяры і выходзіў вастрыём праз рот. Тады кол падымалі і ўкопвалі ў зямлю, каб застрашыць насельніцтва. Такім жорсткім чынам былі пакараныя дзесяткі тысяч людзей. У 1487 годзе, напрыклад, 500 дваранаў разам са сваімі жонкамі, якія сабраліся на Вялікдзень у замак Улада, былі пасаджаны на палі, абвінавачаныя ў здрадзе валадару.

Але дзеля справядлівасці варта нагадаць, што Улад не быў адзінокім у звычаі садзіць людзей на калы. Такое пакаранне было распаўсюджана і ў Польшчы, Вялікім княстве Літоўскім, Расіі ў дачыненні да здраднікаў ці мяцежнікаў. А знакаміты сваёй лютасцю рускі цар Іван Жахлівы трымаў для паказальных пакаранняў не кацёл з варам, а патэльню дыяметрам у два метры, на якой яго ахвяры смажыліся, як грэшнікі ў пекле.

**Графіня дэ Батэры.** У 1560 годзе ў Трансільваніі нарадзілася графіня Элізабет дэ Батэры, якая набыла змрочную вядомасць тым, што прымала ванны з крыві, верачы, што такім чынам захавае маладосць. Яна належала да старажытнага ўплывовага роду, які, аднак, цярпеў ад наступстваў сваяцкіх шлюбаў у некалькіх пакаленнях. Яе дзяцінства было азмрочана трагічнымі падзеямі, якія, здаецца, абавязкова прысутнічаюць у біяграфіях усіх гістарычных злачынцаў. Элізабет была яшчэ зусім дзіцем, калі ўбачыла, як жыўцом хаваюць цыгана-канакрада разам з канём, які паміраў.

Графіня славілася прыгажосцю і стала жонкай знанага трансільванскага рыцара Ферэнца Надашдзі, які насіў мянушку Чорны і быў не менш за жонку вядомы сваёй жорсткасцю. Паколькі муж часта з'язджаў на вайну, Элізабет пакрысе ўцягнулася ў оргіі, якія ладзіла яе цётка-лесбіянка Карла. Менавіта на гэтых пагулянках у яе абудзілася жарсць да катаванняў, а пасля смерці мужа ў 1604 годзе яна цалкам аддалася здзекам са слугаў, маючы над імі поўную ўладу. У самую жорсткую сцюжу яна загадвала выводзіць на двор голых дзяўчынак і паліваць вадой да таго часу, пакуль яны не ператвараліся літаральна ў ледзяныя статуі.

Прачытаўшы неяк, што кроў, магчыма, амаладжвае старую скуру, Элізабет загадала сваім гайдукам выкрадаць і прывозіць у замак прыгожых дзяўчатак. Згодна з выстаўленымі супраць яе на судзе звесткамі і доказамі, яна пачынала з таго, што кусала дзяўчатак за шчаку, а затым угрызалася ў плечы, грудзі, выдзірала зубамі з іх кавалкі мяса. За дзесяць гадоў у наваколлі замку прапала 600 дзяўчатак. Многія з якіх памерлі ад страты крыві, якую скарыстала графіня.

Суд супраць Элізабет пачаўся ў 1611 годзе і прыгаварыў яе да пажыццёвага зняволення. Графіню замуравалі ў яе ўласным замку, пакінуўшы толькі невялічкае акенца для перадачы вады і хлеба. Яна памерла ў сваёй каменнай вязніцы праз чатыры гады адзіноты.

Такога роду прыкладаў можна прывесці з гісторыі тысячы. Не разумеючы прыроды злосці і агрэсіўнасці, людзі раней прыпісвалі ўчынкі такіх людзей д'яблавым падкопам. Цяпер здабыткі псіхалогіі, генетычныя і медыцынскія даследаванні акрэслілі механізмы агрэсіўнасці, і навука можа дакладна вызначыць асобу, схільную да садызму. У аўтарытарных рэжымах прыход такой асобы да ўлады стварае небяспеку для жыцця мноства грамадзянаў. І распрацоўка міжнародных законаў, спецыяльных тэстаў для вызначэння псіхічнага здароўя прэтэндэнтаў на ўладу – задача, якая будзе вырашана. Тады і скончыцца эра садыстаў. Іх пачнуць лячыць ці перавыхоўваць з дапамогай медычных сродкаў, гасячы цэнтры злосці.

**El Mundo (Іспанія)**

## Сутыкненняў міліцыі з грамадзянамі не было

*У мінулым нумары была надрукавана інфармацыя «Сутыкненні грамадзянаў і міліцыі» пра падзеі каля універсаму «Валгаград» у мінскім мікрараёне «Паўднёвы Захад».*

Як паведаміў БелаПАНу начальнік Маскоўскага РУУС, палкоўнік Іван Мікуліч, 3 красавіка, прыкладна ў 19.40, нарад патрульна-паставой службы міліцыі трэцяй роты палка ППСМ ГУУС Мінгарвыканкаму зрабіў заўвагу мужчыну. Апошні, знаходзячыся ў моцнай ступені ап'янення, проста на прыпынку грамадскага транспарту, дзе было шмат людзей, пачаў непрыстойна сябе паводзіць і пайшоў па малой патрэбе. Супрацоўнікі міліцыі адчулі знявагу і вырашылі затрымаць парушальніка. Для гэтага была выклікана патрульная машына, на якой яго даставілі ў аддзяленне міліцыі і там склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па артыкуле 156 Кодэксу аб адміністрацыйна-прававых парушэннях (дробнае хуліганства). Тамсама пратакол быў разгледжаны і на парушальніка – нейкага Віктара Казлова – наклалі штраф у памеры 10 тысяч рублёў. У 21.20 яго адпусцілі.

На прыпынку грамадскага транспарту Казлоў быў у кампаніі яшчэ двух мужчын, якія, паводле словаў начальніка Маскоўскага РУУС, «знаходзіліся ў больш нармальным стане, які дазваляў ім перамяшчацца і паехаць дамоў», што яны і зрабілі.

«Наколькі мне паведамілі, ніякіх дзеянняў з боку народа па адбіванні, вырыванні, вызваленні, яшчэ нейкіх дзеянняў, якія б перашкаджалі выкананню работнікамі міліцыі сваіх службовых абавязкаў, не рабілася, – заявіў Іван Мікуліч. – Спецсродкаў работнікі міліцыі не ўжывалі».

Ён таксама расказаў, што падчас затрымання хтосьці з людзей, што стаялі на прыпынку, выказаў меркаванне, што адзін з супрацоўнікаў міліцыі знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення. Быў выкліканы нарад ДАІ, і ў прысутнасці грамадзян гэтага супрацоўніка міліцыі праверылі з дапамогай так званай трубкі – індыкатара кантролю цвярозасці. Агляд паказаў, што ён цвярозы. Для большай пераканаўчасці работнікі міліцыі паўтарылі працэдуру з той жа трубкай на добраахвотніку – пабочным мужчыне, які заявіў, што ён у гэты дзень выпіваў, што і было пацверджана аглядам.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН**

## Астралагічны прагноз

### ад Веранікі Кудраўцавай на 9 – 15 красавіка

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Небяспечна рызыкаваць фінансамі ў першай палове тыдня. Не выключана, што вас паспрабуюць пакараць ці аштрафаваць за ваш клопат аб народных, калектыўных інтарэсах. Вашыя прагнозы, клопат пра будучыню некаму выразна не па душы. Але дамовіцца можна будзе ў пятніцу, мужчына або вайсковец здатны «падсцяліць саломку».



**ЦЯЛЕЦ.** У прафесійнай працы будуць сюрпрызы, але пастаўцеся да сябе больш міласэрна – справа не абыходзіцца без інтрыгаў, дый не заўсёды можна ўсё прадугледзець, аж да выпадковасцяў. Зарысоўваецца арыгінальны праект, сустрэча ў пятніцу з незвычайным і годным чалавекам, які здатны дапамагчы зарыентавацца ў будучыні. Займацца кадрамі лепш у другой палове тыдня.



**БЛІЗНЯТЫ.** Будзьце гатовыя да падкопаў «добразычліўцаў». Калі вы занятыя глабальнымі задачамі, то без барацьбы не абысціся. Але дастаткова выразны адказ на свае пажаданні ці патрабаванні вы зможаце пачуць у пятніцу. Дакумент з далёкай краіны або з юрыдычнай інстанцыі напачатку шакуе, а бліжэй пад выходныя будзе ўзгоднены.



**РАК.** Калі вы лічыце сябе вольным чалавекам, то прыйдзецца пераканацца ў адваротным або прынамсі разлічыцца за такую высокую думку пра сябе. У дзяцей складаная сітуацыя, але не нервуйцеся, рабіце намаганні і ўбачыце плён ад іх у пятніцу. Бліжэй пад выходныя са шчырым чалавекам вы пашыраеце поле дзейнасці і перспектыўней глядзіце на свет.



**ЛЕЎ.** Публіка ўспрымае вас з цяжкасцю, або партнёры, сужонак крыху «цемняць». Але калі пацікавіцца, адкуль ногі растуць, то ворагі стануць відавочнымі. Някепска было б засяродзіць увагу на пошуку фінансавых сродкаў для ажыццяўлення прафесійнай дзейнасці і важных задач у пятніцу. Відаць святло ў акенцы, ёсць выхад з няўдачаў.



**ПАННА.** Калегі на працы выходзяць з паслушэнства, зарысоўваюцца службовыя скандалы. Верагодная тэрміновая аперацыя. Памятайце пры гэтым, што нервовыя клеткі не аднаўляюцца, а ваша здароўе патрэбна перадусім вам асабіста. Далёкія паездкі і гасціны пакуль што сябе не апраўдваюць. У пятніцу будзе толк з перамоваў і сустрэч з патрэбнымі людзьмі. І ў сужонка справы наладжваюцца.



**ШАЛІ.** Будзьце гатовыя да самага неспадзяванага павароту падзеяў, асабліва калі гаворка ідзе пра дзяцей, каханага чалавека або намечаны спектакль. Ад кахання да нянавісці адзін крок. Верагодна, нехта мусіць адправіцца ў далёкую дарогу ў пятніцу, але не раней. У першай палове тыдня павышана рызыка фатальных выпадковасцяў, фінансавых стратаў.



**СКАРПІЁН.** З сужонкам адносіны «на нажах», з прыкрымі навінамі, магчымымі падазрэннямі, эксцэсамі і абвінавачаннямі. У пятніцу намячаюцца госці ў доме, якія здатныя відавочна знізіць напал жарсцяў і ўнесці разумны пачатак у дыспуты. А праблескі маяка кахання ці клопат пра дзяцей дапамагаюць разабрацца ў хітраспляценнях адносінаў.



**СТРАЛЕЦ.** Імунітэт не вытрымлівае вашага безалабернага стаўлення да ўласнага здароўя. Шмат якія абставіны складаюцца пад уплывам выпадку, спатрэбіцца тэрмінова арыентавацца на мясцовасці. Зрабіце стаўку на пятніцу, калі беспраблемна можна вырашыць цэлую кучу задач, а акрамя таго – усталяваць сонечную пагоду ў доме.



**КАЗЯРОГ.** Будзьце гатовыя да таго, што каханне не вечнае, а клопат пра тапельцаў – часта справа саміх тапельцаў. Да таго ж прыгоды ў каханні – лепш, чым поўная адсутнасць падзеяў у гэтай галіне. Можна, вядома, правяраць пачуцці «грашовымі тэстамі», але лепш гэта рабіць у пятніцу. Дзеці спярша трывожаць, потым дораць вызваленне ад праблемаў.



**ВАДАЛІЎ.** Як бы вас не шакавалі магчымасцю неспадзяванага з'яўлення «дзеці лейтэнанта Шміта». Каханне і абавязак змагаюцца за права авалодаць вашай душой. З суседзямі – нечаканая цяжба. Кіньце сумненні і разбор непаразуменняў да пятніцы, калі вы можаце дасягнуць самага справядлівага і неабходнага ў жыцці выніку.



**РЫБЫ.** Удзяліце ўвагу ўласнаму здароўю. Вы можаце даведацца досыць непрыемную навіну. Але тут галоўнае – не панікаваць, бо ўжо ў пятніцу вы зразумееце для сябе вельмі важныя рэчы і зможаце правільна зарыентавацца ў сітуацыі, а таксама атрымаць нейкі прыбытак. Таемныя ворагі не дрэмлюць, але вы можаце нейтралізаваць іх галоснасцю ў другой палове тыдня.

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК


Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1143 Нумар падпісаны ў друк 8/03/2002 (15:00) Наклад – 7.340